

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

2 КРАСАВІКА 1999г. | № 13/3993 | КОШТ 15 000 РУБ.



*Абуджэнне...*

*Фота А. МАЦЮША*



# КОЛА ДЗЁН

***Міністэрства культуры, Беларускі дзіцячы фонд, Гомельскі аблвыканкам і Калінкавіцкі райвыканкам вырашылі, як і ў папярэднія гады, правесці III Усебеларускі фестываль народнага гумару. Пачнецца ён у красавіку 1999-га ўрачыстым адкрыццём у Мінску і ў абласных цэнтрах, а завершыцца ў ліпені 2000 года ў Аўцюках. Нам адно і застаецца — весяліцца.***

***Паведамленне аб гэтым прыйшло напярэдадні 1 красавіка — Міжнароднага дня смеху, жартаў і вясёлых падманаў. Ды штосьці не было ўчора чуваць над Беларуссю выбухаў вясёлага і здаровага смеху. Самы дасціпны, але, бадай, і самы горкі жарт першакрасавіцкага друку — гэта жарт аб выпуску Нацбанкам РБ у абарачэнне залатога талера вартасцю ў 10 еўра. Асабліва на фоне сапраўднай вартасці рубля, якіх на чорным рынку патрабуюць за долар ужо ажно 370 тысяч. А гэта ж тая славутая печ, ад якой танчаць нашы цэны і іншыя кошты. Вось тут ужо ўсім нам зусім не да смеху. Наадварот. Зойдзеш у магазін, зірнеш на новыя цэннікі і — плакаць хочацца. Пакуль што — плакаць. Смяяцца мы, па ўсім відаць, будзем трошкі пазней...***

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Акцёр-купалавец Віталь Рэдзька ў інтэрв'ю (гл. "Звязду" за 31 сакавіка) заўважае: "Мне сумна працаваць у такім тэатры, дзе ўжо некалькі месяцаў не ставяць спектакля "Тутэйшыя". Ніхто нічога пра гэта не гаворыць. Усё прайшло быццам непрыкметна. Мае добрыя сябры, якія цікавяцца тэатрам, пастаянна звоняць, пытаюць, калі будуць "Тутэйшыя"?.." А сапраўды, калі? І чаму ўсё ж не ставяць?

## СУАДНОСІНЫ ТЫДНЯ

Хто лепш жыве — мы, беларусы, ці нашы бліжэйшыя суседзі? Незалежны друк, насуперак афіцыйным сцвярджэнням, прыводзіць такія звесткі. Сярэдняя зарплата ў Польшчы — 400 долараў, ці прыкладна 122 мільёны нашых рублёў; 280 долараў, ці 98 мільёнаў нашых рублёў — у Літве (заробак талерантнага беларуса ў лютым быў крыху больш за 9 мільёнаў рублёў); мінімальная пенсія ў Літве складае 70 долараў, альбо прыкладна 24,5 мільёна нашых рублёў супраць крыху больш чым 1 мільёна ў нас; нават у Расіі (пасляркрызіснай) сярэдняя зарплата — прыкладна 66 долараў, што ўдвая больш, чым у нас, і мінімальная пенсія там утрая большая, чым у нас; зрэшты, і на Украіне справы лепшыя, чым у Беларусі — сярэдняя зарплата там прыкладна 45 долараў, што ў паўтара раза вышэй, чым у нас... І ўсё гэта, на жаль, не першакрасавіцкія жарты, а жыццёвыя рэаліі.

## ДАПАМОГА ТЫДНЯ

У Расію прыбыла першая партыя прадуктовай дапамогі ад Еўрапейскага Саюза. 24 грузавікі даставілі ў Смаленск вяндліну з Германіі — па 18 тон кожны. У агульнай колькасці ў Расію прыбудзе 600 такіх грузавікоў. ЕС акажа Расіі дапамогу на суму 500 мільёнаў долараў. І радасна, і горка за суседзяў і братоў. Дапамога — гэта, вядома, добра, бо голад, як кажуць, не цётка. Але ж міжволі згадваецца час, калі ўсё было наадварот, калі расійскія збожжа і масла падкармлівалі Еўропу. Чаму ж сёння сітуацыя іншая? Хто вінаваты?

## НЕЗАДАВОЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Тое, што дэмакратычныя сілы аб'явілі аб сваім няўдзеле ў прызначаных на 4 красавіка выбарах у мясцовыя Саветы, — не навіна. Маўляў, "мы не пойдзем на выбары без выбараў", "улады ператварылі выбары ў мясцовыя Саветы ў фарс" і г.д. Але ж, аказваецца, незадаволены і камуністы, і здароваасэнсаўцы, і нават сабораўцы. На "круглым стале" ў Доме прэсы лідэр камуністаў С. Калякін заявіў, што хоць закон аб выбарах адносна і дэмакратычны, аднак "палітычная практыка ў нашай краіне не адпавядае таму, што прынята ў законе". Пра тое, што "закон павінен адпавядаць здароваму сэнсу", гаварыў і лідэр Славянскага Сабора М. Сяргееў. У рэшце рэшт лідэры ПКБ і ПЗС заявілі, што настойваюць на прызнанні выбараў несапраўднымі.

## НОНСЕНС ТЫДНЯ

Колькі дыфірамбаў праспявана за апошнія гады мінскай "Мілавіцы"! Маўляў, беларускую моду ў ніжняй бялізне прызналі нават французы! Яно і сапраўды так. І сёння на "Мілавіцы" шыюць рэчы высокай якасці і бездакорнай прыгажосці. Але... Сярэдні кошт прадукцыі "Мілавіцы" — ад 3 да 6 долараў за адзінку. Ці многія з нашых дзяўчат і жанчын могуць дазволіць сабе набыць яе? Прабіцца ж на Захад нялёгка. У выніку, каб не працаваць на склад, "Мілавіца" вымушана зніжаць аб'ёмы вытворчасці: у першым квартале гэтага года выпушчана прадукцыі ўдвая менш, чым за адпаведны перыяд года леташняга. Атрымліваецца амаль па прымаўцы: сам — не гам, а другому — дам, дык жа не бярэ...

## КАДРЫ ТЫДНЯ

На гадавым акадэмічным сходзе ці не найбольш трывожна "прагучала" кадравая праблема. "Навука" імкліва старэе. Сёння сярэдні ўзрост кандыдата навук у НАН "закрытычны" — 48 гадоў, доктара навук — 58, члена-карэспандэнта — 64, акадэміка — 67 гадоў. 55 акадэмікаў і членкораў маюць узрост за 70 гадоў. А між тым і навука сёння ўсё больш камерцыялізуецца, і рынак з яго жорсткімі законамі — справа маладых і апантаных, здольных "прымаць удары" і працаваць "на салодкай катарзе" суткамі. Што іх падштурхне на гэта? Фінансы, якія не будуць спяваць рамансы — адпаведныя зарплаты. А пакуль кандыдат і нават доктар будзе атрымліваць менш за сяржанта міліцыі, датуль...

## ПЛАН ТЫДНЯ

Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Б. Батура на прэс-канферэнцыі адзначыў, што ўжо сёлета плата насельніцтва за камунальныя паслугі зраўняецца з затратамі камунальнікаў па аказанні гэтых паслуг. Значыць, нашы з вамі выдаткі за жыллё, водаправод, каналізацыю, вываз смецця ўзрастуць у некалькі разоў. А ці зможам мы аплачваць іх? Ужо ж і цяпер для многіх з нас камунальныя рахункі непад'ёмныя. Хіба толькі і заробкі вырастуць у столькі ж разоў. Але хто ў гэта паверыць?

# Беларускія пісьменнікі супраць агрэсіі

Мы з глыбокім абурэннем і трывогай успрынялі ваенную акцыю краін НАТА супраць суверэннай Югаславіі. Гэтая акцыя Паўночнаатлантычнага альянсу з'яўляецца беспрэцэдэнтным парушэннем міжнароднага права і разбурае ўстоі міру, якія склаліся пасля другой сусветнай вайны.

У пісьменнікаў Беларусі — даўнія і трывалыя творчыя сувязі з югаслаўскімі літаратарамі. Яшчэ не так даўно, у канцы мінулага года, у рамках Дзён культуры Югаславіі ў Беларусі, мы прымалі ў сябе сваіх сяброў, вялі перамовы аб пашырэнні супрацоўніцтва нашых творчых арганізацый, планавалі візіт беларускіх літаратараў у Югаславію.

З болем у сэрцы даведаліся мы аб бамбардзіроўках натаўскай авіяцыяй югаслаўскіх гарадоў і паселкаў, аб варварскіх разбурэннях і ахвярах сярод мірнага насельніцтва.

Выказваем самы рашучы пратэст супраць агрэсіўных дзеянняў натаўскіх дзяржаў у Югаславіі.

**Праўленне Беларускага літаратурнага фонду.**
**Кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Сербскаму сябру і пабраціму паэту Мамчылу ДЖЭРКАВІЧУ

*Я з табой! Пачуй мяне, Мамчыла!*
*Я з табой, з табой, мой любы брат!*
*Што было і ў думках немагчыма —*
*Стала явай пяць хвілін назад.*

*Памутнеўшы розумам ад шалу,*
*Рынулася зборня чорных зграй*
*Руйнаваць суздром тваю дзяржаву,*
*Паліваць агнём твой родны край.*

*Што ім трэба там — што скопам цэлым*
*Наляцелі? Хто іх клікаў-зваў?*
*Трэба ім, каб ты пад іх прыцэлам*
*На калені паслухмяна стаў.*

*Ты — хто ў грозным, страшным сорак трэцім,*
*У няспоўненых трынаццаць год,*
*Са святой пагардаю да смерці,*
*Стрэльбу ўзяў — знішчаць фашысцкі зброд.*

*Ты — хто, сербскай гартаваны воляй,*
*Той вясной, ля Сітніцы-ракі,*
*З поля бою, з касаўскага поля,*
*Сцёкшы кроўю, выйшаў без рукі...*

*Памыліліся вытворцы сродкаў*
*Непакорлівым ламаць хрыбты:*
*На зямлі, што ўся ў магілах продкаў,*
*Перад хіжымі не ўкленчыш ты!*

*І калі яны не ўцягнуць іклы*
*Зноў у пашчу — што ж, грымецьме бой,*
*Ты, стары салдат, прымаеш выклік.*
*Я — таксама, брат мой. Я з табой!*

25.3.1999

# Што на гэта сказаць?

***25 сакавіка г. г. Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Саюзнай Рэспублікі Югаславіі ў Рэспубліцы Беларусь панам Нікалаем Пеякавічам было зроблена афіцыйнае Паведамленне ў сувязі з агрэсіяй сіл НАТА супраць СР Югаславіі.***

***З гэтай нагоды мы папрасілі выказацца вядомага югаславіста, літаратара Івана ЧАРОТУ.***

Уласна, цяжка знайсці словы, якія б належным чынам перадавалі ўсё, што павінна быць сказана ў сувязі з варварствам, здзейсненым уладамі тых краін, што прэтэндуюць называцца дэмакратычнымі, цывілізаванымі, перадавымі. Адымае мову сам факт, што за разлічаны на нашу наіўнасць рыторыкай "носьбітаў прагрэсу" хаваецца беззаглядная драпежніцтва, сатанінская апантанасць у намерах чыніць суд над усім людам Божым і вар'яцкая ўпэўненасць, што гэта пройдзе беспакарана. Мы з'яўляемся сведкамі не першага ўжо злачынства магутнікаў гэтага свету і, відавочна, паводле іхніх намераў, не апошняга. Але, усведамляючы, што адбываецца, напэўна, ужо і многія беларусы, гэтаксама як іншыя людзі добрай волі, шчыра думаюць і кажуць: боль пакутнікаў на Балканах — наш боль.

Вядома, югаслаўская трагедыя кожнага з нас асабіста кранае больш ці менш. Што датычыцца мяне, так склалася, што я на працягу вось ужо дваццаці сямі гадоў як спецыяліст маю непасрэднае дачыненне да Югаславіі, парадніўся з гэтай цудоўнай краінай, як гасцінным, таленавітым і мужным народам. Таму, адпаведна, немагчыма было заставацца абыякавым да развалу СФРЮ і да ўсіх трагічных падзей на яе тэрыторыі. З асаблівым болем я ўспрыняў жахлівую вестку пра натаўскую агрэсію. Справа ў тым, што за "сітуацыяй у Косава" я сачу не тыдзень і не год. Шмат разоў мне даводзілася бываць на пакутніцкай і святой для сербаў зямлі гэтага краю. Каб удакладніць, чым матывуецца скарыстанае вышэй азначэнне, і дапамагчы разабрацца ў сітуацыі тым, хто ў сваіх меркаваннях абапіраецца на стэрэатыпы, распаўсюджаныя заходнімі СМІ, прыцытую радкі "Звароту Святога Архіерэйскага сабора Сербскай Праваслаўнай Царквы", датаванага яшчэ 1993 годам: "Як сербы, праваслаўны хрысціянскі і еўрапейскі народ, а тым болей іхняя Царква, могуць пагадзіцца з прыніжэннем і шантажом сусветных уладнікаў, з аднабаковай прапагандаю, каб адмовіліся ад сваёй святой зямлі Косава і Метохіі, дзе ў дыяметры ста кіламетраў наш народ мае тысячу трыста цэркваў і манастыроў, з якіх дзесяць адносяцца да вяршыняў сусветнай духоўнай і культурнай спадчыны?". Вось гэтую спадчыну (не толькі сербаў!), гэтыя святыні і разбураюць. Так што кожны, хто мае страх Божы, напэўна скажа: "Бог зняважаны не бывае. А за ўчыненыя беззаконні і разбурэнні храмаў Яго абавязкова давядзецца адказваць". У сувязі з гэтым згадваюцца словы чарнагорскага ўладыкі і паэта Петара Петравіча Негаша:

*Зняважаны паганымі алтар*
*На міласць паверне нябёсы!*

Між тым, чыняцца невераґодныя грахі не толькі супраць Бога, але і супраць людзей. Трэба ж адказваць і за тое, што тысячы ракет, бомб скінуты на мірныя гарады і вёскі. У чым правініўся перад НАТА, да прыкладу, мой добры сябар, даследчык і перакладчык беларускай літаратуры прафесар Міодраг Сібінавіч, а тым болей яго маленькі ўнучак Іванка?

А для мяне гэта не рытарычнае пытанне, бо ў кожным з бамбардзіраваных гарадоў жыве шмат блізкіх і дарагіх мне прыяцеляў, калег. Ды і без такіх асабістых прывязанасцяў, думаецца, любы сумленны чалавек цяпер скажа: "Ганьба агрэсарам і забойцам тысяч бязвінных!" Разам з тым, хоць і спакваля, прыходзіць усведамленне, што ганьба кладзецца таксама на ўсіх тых, хто своечасова не папярэдзіў такога развіцця падзей, а таксама і на тых, хто дапусціў, каб гучнымі дэкларацыямі пра мір і справядлівасць прыкрываліся хіжніцкія намеры ды бязбожныя і бесчалавечныя законы светаўладкавання. Ганьба і нам, калі нават цяпер прамаўчым.

ФЕСТЫВАЛІ

# Сімфонія дзіцячых галасоў

А з чым яшчэ параўнаць фестываль "Мастацтва — дзецям і моладзі", які завяршыўся ў мінулую нядзелю! Прынамсі, у сталічнай філармоніі ўвесь тыдзень было спеўна. З Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі спявалі юныя выканаўцы эстраднай песні. Спявалі маленькія артысты Дзіцячага музычнага тэатра з Масквы, які носіць імя сваёй знакамітай апякункі Галіны Вішнеўскай, — яны былі ў Мінску ўпершыню і паказвалі старадаўні оперны рэпертуар для дзяцей. Спявалі ўзорныя харавыя калектывы мінскіх школ — удзельнікі аўтарскай вечарыны Георгія Струвэ — маскоўскага кампазітара, акадэміка, прэзідэнта Федэрацыі дзіцячых і юнацкіх хораў Расіі. Дарэчы, зводны дзіцячы хор, які завяршаў канцэртную праграму той вечарыны, зрабіў па-сапраўднаму вясковую кульмінацыю мастацкага свята ў сталіцы.



*У Дзіцячым музычным тэатры — "Грыбны перапалох" А. Бюхнера*
*Фота А. ПРУПАСА*

ШЛЯХІ

НЯДАЎНА ТРАПІЎ на вочы артыкул Вацлава Пануцэвіча "Польская мова ў XIV—XVIIIстст. і каталіцкі Касцёл у Вялікім княстве Літоўскім" (часопіс "Наша вера", N2(5) 1998 год). З артыкула вынікае, што польская мова ў свой час была ў падобнай сітуацыі, як беларуская цяпер. Узніклі з гэтай нагоды пэўныя меркаванні.

Артыкулу папярэднічаюць нататкі пра аўтара. Паведамляецца, што ў 1991 годзе на Беларусь прыйшла сумная вестка з горада Чыкага, дзе 25 жніўня на 81-м годзе жыцця памёр беларускі гісторык. Як паведамлялася ў некралогу: "...грамадскі, палітычны і рэлігійны дзеяч, аўтар шматлікіх працаў з гісторыі і этнаграфіі Беларусі" — Вацлаў

А што сталася з беларускаю моваю? Як вядома, яна была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім і, здаецца, ёй нічога не пагражала. І ўсё ж, узвышэнне польскай мовы ўскосна паўплывала на прыніжэнне беларускай. Звернемся да меркаванняў на гэты конт В. Пануцэвіча: "Калі паслы шляхты з Падлясся ў сваіх петыцыях дамагаліся ў Жыгімонта Аўгуста ў гадох 1565 і 1568, каб лісты з канцылярыі ВКЛ, пісаныя да іх, былі палаціне або па-польску, бо нібы яны "русінскай" (зн. сёння — беларускай) мовы не разумеюць, кароль (ён жа і Вялікі Князь Літ.) іх просьбу адкінуў, а толькі даў у канцылярыю ВКЛ інструкцыю, каб да "рускіх" лістоў для Падляскай шляхты далучаліся пераклады па-лаціне (не па-польску)". Хаця сам Жы-

паланізацыі Літвы Ягайлам і ягонымі першымі наступнікамі не мае ніякіх асноваў". Што ж пра адносіны ліцвінаў (беларусаў) да польскай мовы (яна яшчэ не мела літаратурнай апрацоўкі, а нагадвала розныя польскія гаворкі-дыялекты), сведчыць рэктарскі суд кракаўскага універсітэта ў 1513 годзе, які чатыром студэнтам-ліцвінам вынес грашовую кару за тое, што яны пасміхаліся з мовы студэнтаў-палякаў з Мазовіі. А магнаты ВКЛ, у першую чаргу Радзівілы, прыняўшы рэфармацыю, прыкладалі намаганні на ліквідацыю эканамічнай і палітычнай сілы каталіцкага Касцёла. Такой мэты дасягнуць было нялёгка, бо касцёл меў вялікія зямельныя фонды, быў вызвалены ад дзяржаўных падаткаў і павіннасцяў і фактычна выйшаў з-пад палітычнага, дзяржаўнага кантролю.

У такім становішчы ўзнікалі і развіваліся паралельныя арыентацыі на Усход і на Захад, што стрымлівала працэс нацыянальнага адраджэння. І толькі амаль цалкам непісьменны беларускі народ заставаўся носьбітам сваёй культуры, сваёй "мужыцкай" мовы, атрыманай у спадчыну ад продкаў.

Пачынаючы з 2-й паловы XIX стагоддзя праваслаўна арыентаваную інтэлігенцыю задавальняла ідэалогія "заходне-русізму", якая не пагражала яе сацыяльным інтарэсам. Тым не менш прадстаўнікі каталіцкай шляхты паклалі пачатак беларускаму нацыянальнаму руху.

Іншыя шляхі ў беларускім асяродку намеціліся на пачатку XX стагоддзя. Новая генерацыя нацыянальных дзеячаў ужо не сумнявалася, што без успрымання адраджэнскай ідэі "праваслаўнай" большасцю народа яе пашырэнне на Беларусі немагчымае. Характэрна ў гэтым плане канцэпцыя Вацлава Іваноўскага ў прадмове да састаўленага ім у 1904 годзе першага буквара сучаснай беларускай мовы: "Ці раз у нас сварка бывае; зыдуцца каталік з праваслаўным і сварацца "ох ты, кажа, паляк, — а ты маскаль". І абодва няведама што кажуць: ані той паляк, ані гэты маскаль, абоя хоць ружнай веры, а народу аднаго, бо абодва выраслі на зямельцы тутэйшай... Вось і знарок выдаем лемантар дваякімі знакамі, выбірай, што спанараўна, каб усякі пазнаў, што такіе, ці сякіе знакі, склады і словы тыеж, мова тыеж і людзі, што мовай адной гаворацъ — браты родные".

Менавіта беларуская мова на тым пераломным часе захавалася дзякуючы адраджэнскаму руху. Так, на пачатку таго ж XXст. беларускі нацыянальны рух у каталіцкім ася-

# На межах пераломных часоў

Пануцэвіч. В. Пануцэвіч аддана працаваў на новае беларускае Адраджэнне. Дзякуючы яго намаганням пабачылі свет многія выданні. Сярод іх навуковыя часопісы "Літва", "Беларуская царква", шэраг манаграфій.

Далей аўтар нататкаў пра беларускага гісторыка Алесь Жлутка сцвярджае, што В. Пануцэвіч бадай першым заявіў пра тое, якім чынам сапраўдная назва нашай краіны — Літва — перамясцілася на абшары суседняй балцкай дзяржавы (ранейшая назва Жмудзь) і як славяне-ліцвіны сталі называцца беларусамі. Прааналізаваўшы заходнееўрапейскія пісьмовыя помнікі XII—XIV стст., В. Пануцэвіч прыйшоў да высновы, што ў той даўні час не славяне пранікалі на балцкія землі, а наадварот — пад націскам немцаў балцкае насельніцтва перамяшчалася на славянскія тэрыторыі. У названым артыкуле В. Пануцэвіч развенчвае міф пра паланізацыю беларусаў праз каталіцкі касцёл. У працы значыцца Літва — гэта Беларусь, літвін — беларус, літоўская мова — беларуская. Так сталася ходам гістарычных падзей.

Аказваецца, што ў часы Ягайлы і Ягайлавічаў (1386—1572) і нават пазней амаль да канца XVII ст. польская мова ў самой Польшчы была мовай вясковага насельніцтва і дробнай шляхты, інакш кажучы, "мужыцкай" мовай. Вышэйшыя слаі польскага насельніцтва карысталіся лацінай, а ў гарадах — нямецкай мовай.

Першым падаў голас за ўвядзенне ў пісьменнасць польскай мовы рэктар Кракаўскага універсітэта Якуб з Журавіцы. У яго працы аб упарадкаванні польскай графікі і правапісу сцвярджалася, што разумна робяць народы, пішучы сваю гісторыю на роднай мове. Кожны зацікаўлены можа прачытаць і зразумець без перакладчыка.

Следам за ім голас за польскую мову ў Польшчы падаў каля 1475 года Астрарог. Ён дамагаецца, каб казанні для польскіх вернікаў гаварыліся не па-нямецку, а папольску. Барацьба за тое, каб гэта стала традыцыяй у Марыяцкім касцёле Кракава, доўжылася больш чым 60 гадоў.

Важную ролю ў замене лаціны на польскую мову ў каталіцкім касцёле сыграла польская шляхта ў сваёй барацьбе за шляхецкую дэмакратызацыю правоў у дзяржаве. Пераломным стаў 1543 год, калі Жыгімонт Стары выдаў распараджэнне, каб запісы, позвы і прысуды пісаліся ў Польшчы папольску.

Тым часам беларуская мова не мела такога гаротнага існавання, якое яна перажывае цяпер. Аналізуючы "Хроніку ўсяго свету" Марціна Бельскага, В. Пануцэвіч у сваім артыкуле піша, цытуючы самаго Бельскага: "Русіны (г. зн. сённяшнія беларусы) нашмат больш за нас маюць, бо на сваёй роднай мове пішуць і чытаюць, а мы — чужаземнаю, лацінскаю, якая не можаісці кожнаму з нас на паслугу, як у касцёлах, у праве, так і ў іншых месцах, бо не кожны гэтую лаціну разумее і не кожны на ёй піша...; менавіта для іх я гэту працу здзейсніў, таму што ўва мне жыла любоў да Айчыны..."

З артыкула В. Пануцэвіча становіцца вядома, што польская мова набыла статус дзяржаўнай, дзякуючы патрыятычна настроеным дзяржаўным дзеячам. Пра намаганні некаторых з іх ішла гаворка вышэй (Якуб з Журавіцы, Астрарог, Жыгімонт Стары).

гімонт Аўгуст на вольным сойме ў Пятркове ў 1562—1563 гадах упершыню вёў нарады на польскай мове, за што заслужыў падзяку ад правадыра пратэстанцкай польскай шляхты Мікалая Сянніцкага. А на сойме элекцыйным у лістападзе і снежні 1575 года ў выступленнях прамоўцаў прагучала ўжо дамаганне, каб кандыдат на караля ведаў польскую

У каторы раз мы пераконваемся, што на тое, каб надаць мове адпаведны статус (альбо статуса пазбавіць) ніхто ў народа дазволу не пытаецца. Палітыку ў гэтым напрамку вызначала палітычная эліта, прадстаўнікі высокаадукаванага асяродка, патрыёты-нацыяналісты, тыя, каму Радзіма — родная маці, а не мачыха.



*Фота К. ДРОБАВА*

мову. Праўда, пасля рэфармацыі і паланізацыйнай акцыі Жыгімонта Аўгуста ("залаты век") пры наступных уладарах яго намаганні часам тармазіліся.

Пра пераемніка Жыгімонта Аўгуста В. Пануцэвіч так апавядае: "Сам Уладыслаў Ягайла, апрача сваёй роднай крывіцкай мовы і царкоўнаславянскай, іншых моваў не ведаў і не жадаў ведаць. Мова Вялікага княства Літоўскага ўжо ад часоў Казіміра Вялікага была побач лаціны мовай дыпламатычных зносін Польшчы з Літвой, Руссю Галіцкай, Малдавіяй, Маскоўшчынай".

І ўсё ж, польская мова пакрысе адваёўвае пазіцыі ў "чужаземшчыны" (нямецкай мовы, чэшскай, лаціны) толькі ў 16 ст. А ў 17—18 стст. "**школьная лаціна** ўжо не здолела заглушыць прабуджанай у XVI веку польскай мовы ў пісьме, кніжках і публічным жыцці", але яна нагадвала польска-лацінскую трасянку.

Выкладзеныя факты станаўлення польскай мовы далі падставу аўтару артыкула зрабіць вывад: "Такім чынам гаварыць аб

У віры гісторыі саслабела сыходзіць з арэны Вялікае княства Літоўскае, дзе беларуская мова была дзяржаўнай. Мацнела Рэч Паспалітая, у якой дамінавала Польшча і, адпаведна, польская мова. Пераломным аказаўся 1596 год, калі ў Берасці была заключана царкоўная унія намаганнямі праваслаўных іерархаў ВКЛ. У новай гістарычнай сітуацыі пераважала польская культура. Амаль на два стагоддзі беларуская мова сышла з дзяржаўнай арэны. Не выйшла яна ў "людзі" і пры трох падзелах Рэчы Паспалітай (1772—1795 гг.).

Пачалася новая хваля ўціску беларускай мовы на карысць усходняй суседскай. Кацярына II шчыра прызнавалася, што надзейным сродкам русіфікацыі далучаных ад Рэчы Паспалітай беларускіх абшараў будзе аправаслаўленне іх жыхароў. Але не здаваў сваіх пазіцый і каталіцызм. Нягледзячы на расійскае цараванне, напрыклад, да 1842 года каталіцкае насельніцтва ў Мінскай губерні ўзрасло ў 2,4 раза або 30 працэнтаў ад усіх жыхароў губерні.

родку пачаўся ў дзвюх навучальных установах: у Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі і ў Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе. Тут былі створаны беларускія гурткі, меліся бібліятэкі беларускай літаратуры. У студзені 1913—ліпені 1915 гадоў у Вільні выдавалася штотыднёвая газета "Беларус". У Гародні пры мясцовай гімназіі таксама існаваў беларускі гурток "Хатка".

Мінулі дзесяцігоддзі неспрыяльныя для развіцця беларускай мовы, хоць і былі рэдкія праблескі яе адраджэння. Цяпер зноў наступіў неспрыяльны перыяд.

Свядома і несвядома мы ствараем умовы для залежнасці роднай мовы ад рускай. Але якая ж беларуская дзяржаўнасць без беларускай мовы? Штосьці не ладзіцца з логікай. У свой час стагоддзямі сілай выкаранялі з беларуса яго родную мову. У такой сітуацыі недарэчна пытаца, за якую ён мову. Сілай выкаранялі яе, і вяртаць трэба сілай закона.

**Леанід АНЦІПЕНКА**



ЧАСАПІС

## “Перавал”

**Такую назву сваёй новай кнізе, якая пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, дала Лідзія Арабей. У зборнік увайшлі творы, што з'явіліся з-пад яе пяра апошнім часам. Гэта чатыры аповесці — аднайменная, “Мокры снег”, “Горкія ягады”, “Касцюмерка” і чатыры апавяданні — “Усё на зямлі...”, “На беразе Ла-Манша”, “За павароткаю” і “З таго свету”. Чытач, неабыякавы да сучаснай беларускай літаратуры, які рэгулярна сочыць не толькі за кніжнымі навінкамі, але і за часопіснымі публікацыямі, сярод гэтых твораў з прыемнасцю можа назваць тыя, якія яго не толькі ўразілі, але і зацікавілі. У кожнага, зразумела, яны будуць свае, адно можна сказаць пэўна: ніводзін з новых твораў Лідзіі Львоўны не застанецца незаўважаным, абавязкова знойдзе свайго чытача. Найперш, думаецца, гэта будуць тыя, у якіх**




**пісьменніца прасочвае жаночыя лёсы на ветравейных паўстанках часу. І сярод іх ці не на першы план трэба паставіць апавяданне “Усё на зямлі...”, у якім, дарэчы, умясцілася столькі жыццёвага матэрыялу, што па падзейнай насычанасці яно можа паспрачацца з асобнымі аповесцямі, якія ж вельмі любяць пісаць некаторыя аўтары, вывучыўшы жыццё толькі па кнігах. Але адметнасць апавядання і ў яго псіхалагічнай глыбіні. Далёка не кожны аўтар можа так спасцігнуць жаночы характар, як гэта зрабіла Л. Арабей, расказваючы пра простую жанчыну. Вера — з тых, каго не абмінула сталінскае ліхалецце. Спачатку арыштавалі мужа, пасля гэткі лёс напаткаў і яе. Муж прапаў бясследна, сама засталася жыць. Але ж былі яшчэ дзеці — старэйшы Коля, тады яму споўнілася чатыры гады, і меншы, якому было каля двух, Міша. І муж таксама Міша...**

**Дзеянне ў апавяданні адбываецца пасля таго, як Вера перажыла суровыя выпрабаванні, што выпалі на яе долю. Перажыла, але і засталася з імі, бо мінулае не адпускае жанчыну ні на хвіліну. Не можа яна змірыцца з тым, што не ведае пра лёс сваіх сыноў, якіх энкавэдзісты забралі, калі саму Веру арыштавалі. Шукае іх, як толькі можна і дзе толькі можна. Шукае, ды спадзявання на тое, што знойдзе, застаецца ўсё менш і менш. А гады бягуць і ўсё мацней гняце адзінота. Завяршаецца твор на далёка не аптымістычнай ноце. Ды інакш і быць не можа — такое жыццё, жыццё тых, хто ўвесь час пакутуе. Спачатку фізічна, а пасля духоўна: “Яна не верыла ў Бога, не верыла ў “той свет”, але часамі на яе зноў наплывала, як ачмурэнне, і яна хацела, каб быў Бог, каб быў “той свет” і каб некалі, у нейкім часе і прасторы, яна хоць там змагла б сустрэцца са сваімі дзецьмі, з Мішам вялікім. Яны абняліся б душамі і ўжо гаманілі б, гаманілі б... Усё чыста расказалі б адно аднаму і аб сваіх жыццях,і аб тым, як сумавалі адно па адным”. І апошнія словы: “Але яна разумела, што нават такой магчымасці ў яе не будзе. Няма “таго свету”. І радасці, і гора — усё на гэтым. Усё на зямлі”. І спраўды, усё на гэтым свеце. І тое ж гора, і шчасце. А наконт шчасця, дык яно таксама ў кожнага сваё. І гэтаксама даецца нялёгка, у чым пераконваюць аповесці “Перавал”, “Горкія ягады”, “Касцюмерка”. Л. Арабей, беручы сюжэты з паўсядзённага жыцця, дасягае таго мастакоўскага абагульнення, калі характары персанажаў становяцца тыповымі, а за жыццём кожнага з іх паўстае і жыццё грамадства ў цэлым, у якім нічога дробязнага і выпадкова быць не можа, калі да ўсяго ставіцца ўсур'ёз. Крыху як бы ўбаку ад іншых аповесцяў стаіць “Мокры снег”, герой якой пісьменнік Міхась Адамавіч Малашка, галоўны рэдактар літаратурна-мастацкага часопіса. Многія чытачы, якія блізкія да творчага асяроддзя, і ў галоўным героі твора, і ў іншых персанажах лёгка пазнаюць пратэтыпаў. Вельмі праўдзіва паказана, як сістэма, якой служыць чалавек, адмаўляецца ад яго, калі той робіць нешта не так, як таго патрабуе ад яго афіцыйная ідэалогія. І ўвогуле, кніга “Перавал” з тых, у якіх праўда мастацкая вынікае з праўды жыццёвай.**

**Лявон ЮРЧЫК**

АДГАЛОСКІ

***Здаецца, лімаўская “ружоватуманная” дыскусія наконт пераацэнкі творчай спадчыны беларускай савецкай літаратуры і селекцыі яе ад беларускай літаратуры даўно завершана,і нават у некалькі прыёмаў. Аж — не. Пакуль хвароба не вылечаная, а тым больш — перайшла ў хранічную, ніхто не забароніць добразычліўцам, прафесійным лекарам і непрафесійным, ставіць свае дыягназы і прапаноўваць на свой густ спосабы лячэння. Падобная “медыцынская” асацыятыўнасць узнікла, відаць, пад уплывам артыкула Лідзіі Куратавай, якая ў сваіх развагах над дыскусіяй вакол “ружовага туману” называе цэлы “кактэйль” хвароб нашай літаратуры, вызначаных як уласна ёю, так і папярэднімі ўдзельнікамі дыскусіі: асфіксія, коклюш, сляпняк, ідыяматычны ідыятызм, рудыментарызм і г. д.***

***Думаецца, артыкул нашай аўтаркі напісаны дастаткова палемічна і дасціпна, каб выклікаць рэзананс у чытацка-літаратарскім грамадстве і, хто ведае, — спарадзіць новую хвалю водгукаў.***

# У прадчуванні сарданічнай радасці

*Ёсць тапаграфічны ідыятызм, калі пацыент не адрознівае правае ад левага. Ёсць “палітычны ідыятызм”, калі пацыент не адрознівае “правых” ад “левых”... Ёсць маральны ідыятызм, калі пацыент не адрознівае справядлівае ад несправядлівага... А ёсць “ідыяматычны ідыятызм”, калі пацыент не адрознівае літаральнае ад пераноснага.*

**Манук ЖАЖАЯН**

Праглядаю свае нататкі па лімаўскіх публікацыях. На “палях” пазначана: “С. Дубавец: імпэт адмаўлення ці спроба ўсведамлення літаратурнай асфікцыі?” Зноў вяртаюся да артыкула “Ружовы туман” (“ЛіМ” за 9.1.1998): не дужа вялікі па памеры тэкст, але якім шырокім стаўся грамадскі рэзананс!

Што б там ні даводзілі пра нявартасць і сэнсавую кволасць выказаных у ім аўтарскіх ідэй, згаданы артыкул з’явіўся лакмусавай паперчынай і неўпрыкмет вызначыў настрой сучаснай грамадскай думкі. Дзенідзе выявілася пэўная ступень “чырвані”, што ёсць абсалютна лагічным. (Калі інтэнсіўнасць згаданага колеру наблізіцца да нуля — час пакажа. Нельга меркаваць пра гэта сёння хаця б таму, што некаторыя яшчэ блытаюць чалавека, “кожная часцінка якога перанасыцілася ідэалогіяй бальшавіцкага тыпу”, з чалавекам, якому не стае свежага паветра ў літаратуры, які стаміўся ад цяжкай, запаволенай мужыцкай хады).

“Шукайце тое, што закране душу” Т. Красоўскай (“ЛіМ” за 13.ІІ. 1998) — суцэльная інфантыльная кантамінацыя: “я” — “зямляк В. Аўраменка” — “нягоднік “прафесар Дубавец” — “я сижу на вишенке” — “я малюю “вождя” — “я люблю “ЛіМ”. Адно замілаванне!

Такіх бы дзяўчатак ды хлопчыкаў назбіраць хоць бы на некалькі ВНУ РБ — і нам забяспечаны “светлы шлях” да айчыннай навукі (інакш кажучы, “по стеклу железом медленное скольжение”, ці інерцыя).

Хіба можна весці гаворку пра аб’ектыўнасць, калі спадарыня Красоўская (відаць, у гневе) “ледзь дачытала да канца” артыкул “мабыць, якога-небудзь прафесара Дубаўца”? На яе лёс “выпалі адно адгалоскі” Савецкай улады, але сп. Таццяна памыляецца, сцвярджаючы кан’юнктуру вартай рэчча.

Што да ўключэння замест “Брыля, Броўкі, Коласа, Куляшова, Танка, Шамякіна” ў беларускую літаратуру С. Дубаўца, дык... Як ні непрыемна мне асабіста чытаць, што Сяргею Іванавічу Дубаўцу жанчына спачатку ўяўляецца, здаецца, нейкай жывёлінкай, затым — рыбінай, і пра тое, як ён, гаротны, ніяк не патрапіць “схапіць за хваста” сваю геніяльнасць, таму што, бачыце ж, тая не ў час з’яўляецца, — выбіраючы кнігу для чытання, я аддам перавагу гэтаму, хто ведае, можа, і вар’яцтву, ніж адкрыю зборнік Куляшова.

Навучыцца “адзін да аднаго” змалёўваць акаляючы свет проста, варта добра авалодаць тэхнікай малявання. Але ніякая тэхніка не навучыць мастака зазіраць у сябе, перадаць мастацкімі сродкамі ўласныя жахі ці немачы.

“Гвалты пустаты” Ю. Станкевіча (“ЛіМ” за 20.ІІ.98): “С. Дубавец, як мне здаецца, распачаў абмеркаванне праблемы, якая ў многіх аспектах штучная... Тая — мяркую, тэма гаворкі філосафаў, парапсіхолагаў і псіхааналітыкаў”. Некарэктная аналогія з Псіхеяй. Калі неаспрэчныя характарыстыкі беларускай савецкай літаратуры — масавасць і народнасць — перанесці ў плоскасць псіхалогіі, атрымаецца не дужа прывабны краявід. Будзем мець справу з літаратурай для натоўпу, асноўны метад якой, як вядома, сацрэалізм. Гаворым таксама пра яе (літаратуры) сціпласць і цнатлівасць, таму, пэўна, да гэтага часу за прывіднай нумінознасцю не заўважаем — ці не маем намеру заўважаць, — якія фертыльныя здольнасці выявіліся пад покрывам сарамлівасці. Стваралася шмат: існавала адзіная для ўсіх крыніца натхнення — ілюзія светлай будучыні. Хаця мы нічога, пэўна, не страцілі б, маючы ўласнага Яўгена Еўтушэнку, такога сабе Жырыноўскага ў паэзіі.

Масавая літаратура — не літаратура, хутчэй інструкцыя. Учарашняя: які па памеры капаць катлаван, каб пабудаваць вялікую будыніну — дом на ўсіх; сённяшняя: як лепш заняцца сексам (не блытаць з каханнем) ці пазбегнуць, да прыкладу, шантажу ўласнай крывіначкі.

Парытэт паміж літаратурай і масай — фікцыя. Нават у Пісанні vox populi гучыць, як вядома, не болей за два разы: калі натоўп скандзіраваў “Асанна!” і раз’юшана патрабаваў “Распні Яго!”. Дасюль не ўцямім, што “ўсе людзі не па дарозе адзін аднаму. Усе людзі — solo” (гэта з В. Розанава).

Сацрэалізм увёў беларускую літаратуру ў стан гібернацыі. Пасля ж анестэзіі ў некаторых выпадках назіраюцца асфікцыйныя працэсы — часова замаруджваецца ці ўвогуле спыняецца дыханне. У выніку змардавання творчага імунітэту суцэльнымі радасцямі быцця ў літаратуры мы маем падобную “клінічную” карціну. Асабліва ў дачыненні да сучаснай саветызаванай пісаніны, якая нагадвае хутчэй “акынпрозу” (нават не зжаўцелую бульварную, там, прынамсі, мае месца мара і фантазія). Дзенідзе яна перасыпаецца перарobленымі (змадэрнізаванымі) цытатамі са сваіх ці чужых твораў. Падобная прэтэнцыёзнасць — адкрытае зневажанне найперш таго, хто чытае, а пасля ўжо самога сябе.

Дасюль ніхто не ведае, што ёсць творца, а што чытач, і ці не ёсць яны адно цэлае праз магію слова? Ніштавата было б, але мы дасюль тае магіі не адчуваем. Таму і жыццё бязглуздае.

Сакральнасць, камернасць літаратуры знішчана, і дай Бог, каб праз колькі дзесяцігоддзяў мы натрапілі на яе кволы прывід. Паводле Ж. Рэнара, ветлівасць літаратуры — празрыстасць. Алюзорнасць. Літаратура ж ля натоўпу не прадугледжвае вертыкальных кантэкстаў.

У І. Бродскага “не ўсе людзі — людзі. Калі, скажам, генсек кампартыі чалавек, то я — не чалавек”. Чаму кожная напісаная з прэтэнзіяй на мастацкасць рэч мае звацца прыгожым пісьменствам?

Яшчэ цытата: “Ад недахопу культуры ніхто не памёр. Паміраюць ад голаду і хваробаў” (С. Яновіч. “[illegible]нога, пасталеем...”, “ЛіМ” за 27.ІІІ. 1998). Амаль геніяльна, таму што праўда. Але нейкая спрошчаная і задужа лінейная. Вынікам такога плоцевага існавання абавязкова станецца ўсведамленне цяжкіх часоў як парожыстых, кшталту Ніягары, тады як здаровая свядомасць на падмурку незасмечанай падсвядомасці павінна ўспрыняць такі пераходны час як прыступкі.

Цытую далей: “Кожная нацыя прайшла этап свайго самаадназўлення, як дзіця коклюш”. Лепей было б сказаць, слупняк: спачатку назіраюцца сутаргі жавальных цягліцаў, затым прагрэсуе іх стамляльнасць, а напрыканцы — risus sardonicus. Калі паглядзець на беларушчыну не праз каляровае шкельца дзіцячай хваробы, цікава, ці далёка яшчэ нам да сарданічнай “радасці”?

Нейкія мы ўсе рудыментарныя, прычым з такім самым мысленнем. Навошта так апантана выкрываць у Дубаўцу журналіста і, відаць, забараняць-такі яму лезці ў святая святых філалогіі — літаратуру? (Алесь Аркуш, “Нагода для сур’ёзнай размовы”, “ЛіМ” за 20.ІІ.98).

Аднойчы на выхад чарговага нумара часопіса “Die Fackel” Карла Клауса, які на той час ужо з’яўляўся яго адзіным аўтарам, Ф. Кафка заўважыў: “Ён (К. Клаус. — **Л. К.**) цудоўна разбірае журналістаў. Толькі заўзяты браканьер можа быць такім строгім паляўнічым”.

Сп. Дубавец не вельмі старанны літаратар, каб прапаноўваць чытачам выкшталцоныя тэксты. Ён шмат у чым паўтараецца, прычым робіць гэта досыць неахайна. Варта было папярэдзіць — і абышлося б без адрэналіну. Нас увогуле трэба добра трасянуць, каб пачалі разважаць і крыху глядзець перад сабою.

Дарэчы, Сяргей Дубавец няблага інтэрпрэтуе мастацкія творы, прынамсі, у гістарычным кантэксце (“Смяротны бой”, “Наша Ніва” за 20.Х.97). Бракуе, праўда, навыкаў па тэорыі інтэрпрэтацыі, але каму іх сёння не бракуе! Увогуле, пра герменеўтыку не варта весці гаворку — вельмі балючая тэма. Для Беларусі. На нашым фантомным даляглядзе філалогіі не відаць нават эрзацаў Шлеермахераў ці Асітаў, якія б пераканаўча, на прыстойным навуковым узроўні давялі думаючай частцы грамадства, чаго на самай справе вартыя творы савецкай эпохі. А пакуль што айчыннае літаратуразнаўства будуецца на ўласных эмоцыях і мінімальным выкарыстанні герменеўтычнага вопыту заходніх школ, якія, дарэчы, поўнасцю выключае роднасныя ці сяброўскія сувязі.

Чаму б не звярнуць увагу на тое, што сп. Дубавец дбае-такі пра эстэтыку, а не пра негатыўную напоўненасць згаданых у не зусім дыпламатычным кантэксце прозвішчаў? Здаецца мне, падобная нягегласць не ёсць грэбаваннем з яго боку. А ўсё-такі, чаму б не зрабіць напамін пра эстэтыку імператывам? Ён пачынаецца ўжо там, дзе перастаюць амаль з артыстычнай выразнасцю Эдварда Радзінскага дэкламаваць “чалавека можна знішчыць, але яго нельга перамагчы”, памятаючы пры гэтым на працягу дзесяцігоддзяў не агучаны працяг: “але як лёгка становіцца, калі ты пераможаны. Хто ж цябе перамог, стары? - спытаў ён у сябе. — Ніхто, — адказаў ён, — проста ты занадта далёка адышоў у мора”.

“Яна (літаратура. — **Л. К.**) не мусіць нікому служыць, нават маралі. А ўжо абсалютна не палітыцы, гэтай прастытутцы чалавечага духу” (з допісу С. Яновіча). Але ж — служыла, і ці не атрымоўвае і па сёння ўшанаванні за выслугу гадоў?

Наша агульная абыякавасць стварае надзіва інфернальныя ўмовы для аб’ектыўных суджэнняў, выкрываючы пры гэтым адну з брудных рэалій, калі, гаворачы словамі ўсё таго ж Франца Кафкі, “кожны падсудны спрабуе дамагчыся адтэрміноўкі прысуду”. Але ці патрэбная яна, нават калі нехта “хапае жыццё ў дваццаць рук”?

**Лідзія КУРАТАВА**

КНІГАРНЯ

# Беларускі кнігазбор: праблема выстаяць?

Добра, калі прывабны вонкавы выгляд кнігі адпавядае яе змястоўнасці. Такое суладдзе зместу і формы можна ўбачыць у выданнях "залатой бібліятэкі", якую распрацоўвае Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук і выдае "Беларускі кнігазбор". Як паведамлялася ў "ЛіМе", выйшаў чарговы сёмы том, у які ўвайшла літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага. Шмат што яшчэ рыхтуецца да друку (скажам, такія скарбы: "Беларусы" Яўхіма Карскага, "Літаратура старажытнай Беларусі", "Кастусь Каліноўскі. Творы, дакументы...").

Спрыяльныя ўмовы для кнігавыдавецкай справы — гэта найперш сродкі, якіх у варунках высокай хвалі інфляцыйных працэсаў патрабуецца ўсё больш і якіх у наяўнасці ўсё менш. Дзяржава спыніла фінансаванне выданняў "Беларускага кнігазбору", і сёмы том выйшаў якраз без яе звыклай падтрымкі. Мог і не выйсці. Але выйшаў, дзякуючы добрым, высакародным людзям, неабыякавым да такой святыні, якой з'яўляецца нацыянальная духоўная спадчына, на жаль, пакуль ад нас па сутнасці схаваная і якую, аднак, мы абавязаны перадаць наступным пакаленням, наступным стагоддзям, калі свет не захлынецца ў пошасці, цынізме і празе разбагацець матэрыяльна любымі сродкамі.

Дзякуй Богу, знайшліся кіраўнікі прадпрыемстваў і фірмаў, якія зразумелі выключна важную ролю пасільнай падтрымкі унікальнай кніжнай справы агульнанацыянальнага маштабу. Управа міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор" выказвае сардэчную падзяку генеральнаму дырэктару прадпрыемства "Рытм" М. Віткоўскаму, генеральнаму дырэктару вытворча-гандлёвай фірмы "Прырода" Л. Гулевічу, кіраўніку прадстаўніцтва шырокавядомай фірмы "Motorola" М. Даніловічу і камерцыйнаму дырэктару М. Шлык за своечасовую падтрымку. Шчырая ўдзячнасць таксама генеральнаму дырэктару Мінскага завода шампанскіх вінаў Т. Будыку, савету працоўнага калектыву, якія не адмахнуліся ад заклапочанасці кнігавыдаўцоў, — тры мільёны "зайцоў" — таксама грошы, якія, як кажуць, пад нагамі не валяюцца.

Кіраўнікі МФ "Беларускі кнігазбор" зычаць усім фундатарам здароўя, спрыяльных умоў для развіцця іх дзейнасці і працвітання. У названых прадпрыемстваў і фірмаў, вядома ж, нямала сваіх праблем. Так, прадпрыемства "Рытм", спецыялізуючыся на будаўніча-аздобных і рамонтных работах, пастаянна перажывае дэфіцыт абаротных сродкаў, бо ўкладзеныя ім грошы ў неадкладныя паслугі няхутка даюць аддачу. Але, мяркуючы па ўсім, чалавек, што яго ўзначальвае, — асоба, якая дбае не толькі пра хлеб надзённы, пра дабрабыт людзей, а і пра хлеб духоўнасці — спажытак душы — для сучаснікаў і нашчадкаў. Фірма "Прырода" пераадольвае многа цяжкасцяў, пры гэтым дапамагае інвалідам, праводзіць іншыя дабрачынныя акцыі на тэрыторыі двух раёнаў, дзе размешчаны яе кропкі гандлю.

Але вернемся да новага выдання. Ян Баршчэўскі, ураджэнец вёскі Мурагі, што на Віцебшчыне, паходзіў з беднай беларускай шляхты. Год народзінаў з поўнай дакладнасцю не высветлены: паводле адных крыніц — 1790, паводле іншых — 1794 ці 1796. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, якая ў 1812 годзе пераўтварылася ў акадэмію. Там Ян атрымаў званне кандыдата акадэміі, набыў вядомасць чытальніка і паэта, карыстаўся аўтарытэтам і як пейзажыст і карыкатурыст. Схільны да вершаваных экспромтаў, быў жаданым госцем на шматлікіх урачыстасцях шляхты. Як паэтычна-рамантычная натура, часта мяняў заняткі. Працаваў хатнім настаўнікам, гувернёрам. У 1817 годзе ўладкаваўся на службу ў марское ведамства Санкт-Пецярбурга, што дало яму магчымасць пабываць у Фінляндыі, Францыі, Англіі ды іншых еўрапейскіх краінах. У сталіцы расійскай імперыі змяніў некалькі дзяржаўных устаноў, больш за 10 гадоў выкладаў грэчаскую і лацінскую мовы, вывучаў старажытныя літаратуры; там жа ў 1840—1844 гадах выдаваў штогадовы альманах "Niezabudka". Ян Баршчэўскі быў сучаснікам Аляксандра Пушкіна, Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі. З Міцкевічам і Шаўчэнкам, дарэчы, сустракаўся ў Пецярбурзе.

У сярэдзіне 40-х гадоў, запрошаны пісьменнікам Г. Жавускім і крытыкам М. Грабоўскім, пераехаў на Украіну ў г. Чуднаў. Вандраваў, збіраў матэрыялы пра археалагічныя аб'екты. У канцы 40-х гадоў захварэў на сухоты. Памёр у 1851 годзе. Пахаваны на Украіне.

Навукоўца Мікола Хаўстовіч, укладальнік гэтага тома, аўтар прадмовы, каментарыяў, перакладчык прозы і лістоў Баршчэўскага, называе яго паэтам і казачнікам з азёрнага краю.

Першы свой верш "Дзеванька" Ян Баршчэўскі стварыў на роднай мове ў 1809 годзе, апублікаваць яго ўдалося толькі ў 1843 годзе. У юнага паэта былі яшчэ беларускамоўныя творы, адзін з іх — "Бунт сялянаў" ("Рабункі мужыкоў"). Але, на жаль, краіна не мела тады беларускага друку, і малады творца мусіў перайсці на польскую мову, якая тут панавала, з'яўлялася літаратурнаю. "Але і на гэтай мове, — піша М. Хаўстовіч у сваёй прадмове, — ён праявіў сябе як шчыры патрыёт Бацькаўшчыны". Навукоўца слушна сцвярджае, што Ян Баршчэўскі, як ніхто раней, "здолеў выдатна паказаць у сваёй творчасці беларуса, раскрыць яго характар, расказаць пра родны край". Невыпадкова яго першыя вершы многімі ўспрымаліся як народныя: на гаворцы свайго народа аўтар распавядаў пра тое, што востра баліць не аднаму яму, напрыклад: "Стала і нас карціць, як бы то Польшчу звараціць".

Польскамоўная паэзія Яна Баршчэўскага сярод выбраных твораў пададзена ў адметных перакладах народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна (ён жа і перакладчык цудоўнай драматычнай паэмы "Жыццё сіраты"), а таксама ў перакладах Уладзіміра Дубоўкі, Кастуся Цвіркі, Уладзіміра Мархеля. Тут і вершы, і санеты, і балады. Балады, як правіла, заснаваныя на змесце народных легенд і паданняў.

На жаль, не ўсё, што народжана яскравым талентам Яна Баршчэўскага, ацалела ў віхурах часу, дайшло да нас. Так, дагэтуль не знойдзена яго вершаваная аповесць пра напад татараў, толькі пачатак уступу да якой паэт надрукаваў у альманаху "Niezabudka". Не захавалася і паэма "Пояс Венеры".

Цэнтральнае месца ў кнізе выбраных твораў Яна Баршчэўскага займае проза: "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", "Драўляны дзядок і кабета Інсекта" і "Душа не ў сваім целе". Галоўную яго кнігаю нездарма называюць "Шляхціца Завальню...". Трапна характарызуючы яе, М. Хаўстовіч у прадмове піша: "...пісьменнік закранае ўсё кола пытанняў, звязаных з беларускаю нацыянальнаю думкаю... Пры дапамозе сістэмы вобразаў-сімвалаў выказваецца асноўная думка кнігі: Беларусь — гэта край, які мае сваю гісторыю... гэта край, насельніцтва якога — асобны народ, які можа і павінен жыць без дыктату з боку суседзяў, жыць паводле законаў ды традыцый сваіх продкаў... Беларусам трэба адно толькі ўспомніць сваё слаўнае мінулае, тых, хто загінуў за волю ды незалежнасць Бацькаўшчыны... Так, сапраўды, у беларусаў павінен быць гонар за продкаў сваіх, каб ісці сваім, а не падказаным суседзямі шляхам".

Чытача, пэўна, зацікавіць развага М. Хаўстовіча пра тое, што найбольш яскрава ідэю кнігі Яна Баршчэўскага выяўляе сімвалічны вобраз Плачкі. Плачку адны не могуць, другія не хочуць зразумець. Тым, хто адвярнуўся ад Беларусі, "непатрэбна Яе Жывая вада, што, пэўна, не аднаму б абудзіла ягоную нацыянальную самасвядомасць". "Паны і шляхта нічога не хочуць ведаць пра Плачку, пагардліва глядзяць на сялянскую сірату, — піша М. Хаўстовіч. — Наадварот, яны звязваюцца з Чарнакніжнікамі, аддаюць свой край пад уладу Белае Сарокі, гаспадыні Паўночнае краіны (выдатны алегарычны вобраз Кацярыны II), а самі ў вобліку мядзведзяў вартуюць яе багацці; яны наводзяць на Беларусь асташоў, якія нішчаць нашу прыроду ды псуюць норавы люду".

Умела аналізуе М. Хаўстовіч у прадмове і "Жыццё сіраты". Ён заўважыў, што паэт не абмежаваўся адлюстраваннем... сумнае гісторыі сіраты-дзяўчыны, якую апякун давёў да вар'яцтва ды завалодаў яе маёнткам і што гэтая жыццёвая гісторыя пад пяром Яна Баршчэўскага перарастае ў алегарычны малюнак нашага краю, нашае Беларусі. Сірата — гэта "тая ж Плачка-Беларусь, якая смуткуе па сваіх неразумных дзецях, што забыліся пра Яе, адракліся ад Яе, аддалі на здзек чужым людзям". І яшчэ прынцыпова важны момант адзначае ўважлівы навукоўца: "У той час, калі расійскі цар Мікалай I сваім загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакументах тэрмін "Беларусь" (1840), г. зн. "аб'явіў" пра пачатак працэсу поўнае русіфікацыі беларусаў, Ян Баршчэўскі змяшчае гэты тэрмін на тытульным аркушы свае кнігі..." Яна, Беларусь, — як мара, пакуль толькі ў "фантастычных апавяданнях", але ўжо ёсць. Дзякуючы Яну Баршчэўскаму вобраз Беларусі, беларуская ідэя становяцца свяшчэннымі.

Шмат што можна было б яшчэ распавесці пра новае выданне "Беларускага кнігазбору", але я наўмысна спыняю гаворку пра гэта цікавае і змястоўнае выданне, бо кнігу лепш адзін раз прачытаць, чым сто разоў пра яе пачуць. Яна яшчэ пакуль ёсць у продажы. Нагадаю чытачам: з усімі пытаннямі набыцця кніг "залатой бібліятэкі Беларусі", а таксама з прапановамі наконт іх выдання і заўвагамі варта звяртацца на адрас: 220005, г. Мінск, а/с 185, тэл/факс (017) 220-70-27.

"Беларускі кнігазбор" апынуўся на самастойным шляху дзейнасці. І, як ніколі раней, аказаўся пакуль цалкам залежны ад ахвяраваных сродкаў. У што абернецца спроба гэтага шляху, пакажа час. Адно ўжо можна сказаць: мяркуючы па стане нацыянальнай свядомасці грамадства, будзе праблема выстаяць. Ды справе гэтай наканавана жыць.

**Васіль ЖУКОВІЧ**

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК

КРЫТЫКА

# Яшчэ пра валенрадызм

Сваю паэму пра Конрада Валенрода сам Адам Міцкевіч называў "палітычнай брашурай" і "досыць важнай брашурай пра надзённыя справы". Здавалася, усё ў гэтым творы было насуперак канонам сапраўднага высокага мастацтва: і яго свядомая палітызаваная тэндэнцыйнасць, і меладраматычнае каханне, і нават востры дэтэктыўны сюжэт. Але гісторыя літаратуры распарадзілася інакш. Не эпічна-маштабны "Пан Тадэвуш", не сімвалічна-філасофскія "Дзяды", а якраз "Конрад Валенрод" да сёння самы папулярны твор у масавага чытача. Больш таго, на працягу стагоддзя акурат гэтая паэма застаецца адной з дамінантаў, якая вызначае развіццё суседніх славянскіх літаратур, найперш беларускай і ўкраінскай.

Некаторыя крытыкі называлі "Конрада Валенрода" апафеозам здрадніцтву. У літаратуразнаўстве нават пачаў ужывацца тэрмін валенрадызм, пад якім разумелася даследаванне розных іпастасяў здрады як у творах, так і ў асабістым грамадска-палітычным жыцці творцаў. Трагічная гісторыя XX стагоддзя давала шмат нагод для праяўлення валенрадызму, і ўсё гэта так ці інакш адлюстравалася ў нашай літаратуры.

Міцкевіч увайшоў у гісторыю сусветнай культуры пад сцягам барацьбы за нацыянальную незалежнасць. Яго мастакоўская і чалавечая індывідуальнасць было такой маштабнай і універсальнай, што дазволіла яшчэ пры жыцці стварыць ягоны культ — Прарока і Правадыра. Менавіта гэты культ і стаў пазней тым узорам, паводле якога маладыя славянскія літаратуры ўзводзілі на п'едэстал сваіх песняроў — прарокаў.

Так на Украіне ўзнікае культ Тараса Шаўчэнкі, які існаваў цэлае стагоддзе і працягвае існаваць да сёння, выклікаючы не столькі здзіўленне, колькі добрую зайздрасць у нас, беларусаў. Асабліва, калі мы чытаем наступнае сведчанне: "Я не ведаю другога паэта, каму б так пакланяліся — у масе, быццам святому, абліваючыся слязьмі, як у царкве, закарузлыя мужыкі, перад іконай-партрэтам, у ручніках, на таемным юбілеі, у капцёрцы, хорам, як ойча наш: Бацьку! Тарасе!" — так пісаў Абрам Тэрц у сваёй кнізе "Голос из хора".

Пра купалаўскі культ на Беларусі ёсць таксама балючая і сімвалічная згадка. "В школах везде рядом с портретом Ленина обязательно имеется портрет Янки Купалы, того самого, что рекомендует доктрину Монро ("Америка для американцев") для Белоруссии, и вообще, везде — в академии, школе, на советском съезде проводится своеобразный культ Купалы". Гэта цытата з сумна знакамітага даклада "Об обследовании практики нацработы в БССР", прачытанага 27 чэрвеня 1929 года.

Аднак, калі для Тараса Шаўчэнкі (1814—1861) Адам Міцкевіч (1798—1855) быў толькі вялікім сучаснікам і непасрэднага ўплыву на ягоную творчасць аказваць не мог, то для пісьменнікаў пазнейшых пакаленняў (у тым ліку і для Купалы) Міцкевіч — вялікі папярэднік, творчага ўздзеяння якога немажліва пазбегнуць.

Паводле псіха-паэтычнай тэорыі Гаральда Блюма існуе пэўны "неспакой уплыву", які вымагае ад наступнікаў не столькі наследавання, колькі змагання і канфрантацыі з папярэднікамі.

У XIX ст. постаці роўнавялікай Адаму Міцкевічу ў беларускай літаратуры не было. І стаўшы для Купалы сімвалам высокай Паэзіі, прыкладам сапраўднага Прарока-Песняра, А. Міцкевіч цераз творчасць Купалы прадвызначыў і шматлікія матывы нашай сучаснай літаратуры. Ад "Конрада Валенрода" праз купалаўскіх "Беларускіх сыноў" і Мікіту Зносака тэма здрадніцтва цягнецца ў творы Васіля Быкава.

Свядомая палітычная тэндэнцыйнасць В. Быкава спараджае тэндэнцыйны раман Ю. Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў", які нельга не залічыць да найважнейшых здабыткаў сучаснай прозы.

**Галіна ТЫЧКА**

ЧАСОПІСЫ

## "ПОЛЫМЯ", N 1

Нумар адкрывае аповесць В. Быкава "Ваўчыная яма". Змешчаны вершы Г. Бураўкіна, А. Салтука, Я. Лайкова, Т. Мушынскай, апавяданні А. Варановіча, В. Гігевіча. Некалькі вершаў Ф. Цютчава пераклаў Ю. Свірка. Пра дзейнасць АДПУ ў 1929—1933 расказвае ў артыкуле "Пад дыктатурай страху" А. Заерка. Да 130-годдзя з дня нараджэння Я. Ляцкага прымеркавана публікацыя артыкула І. Цішчанкі "З думкай пра Беларусь". "Янка Купала і Савецкая ўлада" — даследаванне Г. Тычкі. Жанрава-стылёвыя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры XX стагоддзя (80-ыя — 90-ыя гады) на прыкладзе творчасці Л. Левановіча аналізуе Д. Бугаёў ("Дасягнутае і страчанае"). Пытанні культуры мовы закранае А. Каўрус ("Служэнне роднаму слову"). Завяршае нумар падборка "Сярод кніг".

## "БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС", N 1

"Аб дзяржаўным статусе беларускай мовы ў гісторыі Беларусі" — тэма артыкула І. Басюка і М. Сільчанкі. Галоўны рэдактар "БГЧ" В. Кушнер гутарыць з дырэктарам Інстытута ўсеагульнай гісторыі Расійскай акадэміі навук А. Чубар'янам ("Наш час патрабуе адмаўлення ад старых догмаў і стэрэатыпаў"). Змешчаны артыкулы Л. Нежынскага "Дзяржаўная ўлада і знешняя палітыка Расіі ў XX ст.", К. Дыбы "Курды на Блізкім і Сярэднім Усходзе", В. Белазаровіча "Асаблівасці калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР у 1939—1941 гг.", В. Шадурскага "Супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з еўрапейскімі краінамі ў галіне культуры", І. Валахановіча "Барацьба вакол ідэі "беларускай незалежнай дзяржавы" (другая палова 40-х — пачатак 50-х гг.)", Ю. Функ "Яўрэйская дабрачыннасць на Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.", В. Шалькевіча "Юзаф Каліноўскі і яго "Споведзь" (друкуецца і сам тэкст "Споведзі"). В. Кушнер, У. Гілеп, А. Мальдзіс віншуюць з 70-годдзем А. Грыцкевіча ("Гісторыі сумленны знаўца"), М. Касцюк, У. Навіцкі, Н. Васілеўская — Л. Лыча ("Нястомны руплівец нацыянальнага Адраджэння")...

## "НЁМАН" N 2

Ёсць мажлівасць пазнаёміцца з вершамі Н. Гілевіча, В. Яраца, Н. Гальпяровіча, І. Катлярова, В. Малагушы, Г. Сарокі, пачаткам дэтэктыўнага рамана В. Праўдзіна "Вяртанне з апраметнай", апавяданнем Н. Маеўскай "Саша". А. Ждан ("Сардэчныя тайны") гутарыць з дырэктарам Інстытута кардыялогіі М. Манакам і загадчыкам аддзялення сардэчна-сасудзістай хірургіі Ю. Астроўскім. Прапануюцца раздзелы з кнігі І. Навуменкі "Максім Багдановіч", публіцыстычны роздум Ф. Яфімава "Ад адзінства да шматзначнасці і назад", старонкі з дзённікаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...", рэцэнзія І. Трафімава на кнігу В. Шчукіна "Міф дваранскага гнязда. Геакультуралагічныя даследаванні па рускай класічнай літаратуры". Я. Шунейка прадстаўляе жывапісца і скульптара П. Жураўлёва ("Час страсцей чалавечых").

 ЧАСАПІС

## "Мілавіца"

Да сапраўднай вясны — у зялёным убранстве дрэў, кветках, на палетках і лугах — яшчэ далекавата, а ў "Майскім вершы" Паўла Саковіча яна ва ўсёй сваёй красе:

*Гэты час люблю дзівосны!*
*Салаўіны ранні золак.*
*Тчэ вясна на вечных кроснах*
*Дываны з чароўных зёлак.*

*Гнуць траву да долу росы,*
*Сонца сочыць краем вока,*
*Як вярба палошча косы*
*У рачулцы неглыбокай.*




Амаль увачавідкі бачыш і паяднанне чалавека з прыродай: "Дзед сядзіць на прызбе цёплай, Можа, сніць вясну такую ж... Бы ўспамін, слязіну-кроплю На губах сухіх смакуе. Свой убор зляжалы сушыць Бабка свежым ранкам майскім. Цвет вішнёвы зацярушыць След старой у садзе райскім...."

"Майскі верш" — адзін з вершаў новай кнігі П. Саковіча "Мілавіца", выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Дагэтуль П. Саковіч у асноўным выступаў у галіне гумару і сатыры, што, у прыватнасці, засведчыў і яго нядаўні зборнік "Эпіграмы — як рэкламы", але, аказваецца, Паўлу Паўлавічу падуладна і паэзія "сур'ёзная". Ён умее быць шчырым, яму ўдаецца перадаць праз успрыманне лірычнага героя аднолькава блізкае многім. Асабліва светлымі атрымаліся вершы пра хараство прыроды. Яна ў П. Саковіча — і частка ўсяго жывога, і храм, у які хочацца ўвайсці, калі з'яўляецца жаданне ачысціцца маральна і душэўна.

Хвалюе аўтара праблема адарванасці чалавека ад вытокаў. Матыў гэты набывае публіцыстычнае гучанне. Многім з нас сніцца "сена на асфальце", і душы нашай усё яшчэ непрытульна ў новым асяродку, асабліва калі чалавек развітаўся з вёскай і належным чынам не знайшоў сябе ў горадзе. Тым, што на душы, ён дзеліцца з іншымі:

*Я заклікаю ўсіх сыноў:*
*Хай будуць цяжкасці любыя,*
*Не прадавайце дом бацькоў —*
*Вас не ўратуюць грошы тыя.*

*Яны дабра не прынясуць,*
*Ніколі не дадуць спакою,*
*Агнём вам рукі апякуць,*
*Нібы праказаю якою.*

П. Саковіч часам здольны быць першаадкрывальнікам нават там, дзе, здавалася б, нешта новае сказаць цяжка. Для прыкладу — чатырохрадкоўе пад назвай "Памінальная вячэра":

*Распаленай патэльняй*
*ззяе поўня.*
*Вось-вось бліноў на ёй,*
*аладак напякуць...*
*Як за абрусам чорным*
*усё роўна*
*Багі сабраліся*
*паэтаў памянуць.*

Завяршаюць зборнік дзве "эпіграмы — як рэкламы". І невыпадкова, бо кніга з'явілася дзякуючы фінансавай падтрымцы закрытага акцыянернага таварыства "Мілавіца", яго генеральнага дырэктара Зінаіды Валехі і старшыні Аршанскага гарвыканкама Валянціна Майсеюка. Ім удзячны аўтар і адрасуе гэтыя свае творы.

Лявон ЮРЧЫК

---

ПАЭЗІЯ

Алег ЛОЙКА



# Пад крылом Беларусі

●

*Не, я — не бедны,*
*Не растаптаны, —*
*Мы — тытаны.*

*Не, не ваўкалак я,*
*Не гіена, —*
*Мы — геніі.*

*Мы — непатрушчаныя,*
*Мы — непаколатыя, —*
*Волаты.*

*Не быўшыя,*
*Не памылкі, —*
*Асілкі.*

*Вусны не слінім,*
*Свет — не клінам*
*У скрусе*
*Пад неўміручым,*
*Пад буслінім*
*Крылом Беларусі!..*

●

*Я не ехаў, — я плыў, я ляцеў,*
*Белы лебедзь у пене яблынь,*
*Белы сокал у квецені дрэў,*
*Сам сабе і свету вабны.*

*Белы квет — выклік сівізне,*
*Ну, і яблынька — гэтаксама:*
*Тут жыццю не прамовіш "Не!.."*
*Тут жыццё — майская брама!..*

*Май умайвае ўсе шляхі,*
*Май усе шляхі прымае,*
*А тым болей — для неліхіх,*
*Для народжаных першамаем.*

*Дык квітней, нібы май, дык ляці,*
*І плыві, і спяшай светам гэтым,*
*Дзе ў жыцці і ў пазажыцці*
*Найгарчэй быць пустацветам.*

*Свет кругамі не па вадзе,*
*А ці ў маі ён, ці не ў маі,*
*Лебедзь рад, сокал рад: што цвіце,*
*Пустацвету на ўме не мае.*

●

*Калі пішуцца вершы,*
*Не вер, што ты — Апалон,*
*Хоць ты, можа, блізка першы*
*Ў палоне яго калон.*

*Калі не пішуцца вершы*
*Вер, вер, што ты — Апалон,*
*І ліха з ім, што няпершым*
*Запросіць цябе колісь ён.*

●

Міколу ГРЫНЧЫКУ

*Вудай не з бамбукоў, —*
*З ляшчыны, што ў неба сягае,*
*Акунёў, як канёў*
*Прафесар з бухтаў цягае.*

*Ляшча — не падняць,*
*Сом вусаты вусам водзіць*
*Каля гачыка, што, як яць*
*Са "Слова аб Ігаравым паходзе".*

*У Быцені ты — не ў цяні,*
*І не толькі ў Быцені, —*
*Цягні, любы браце, цягні,*
*Да сотні выцягні!..*

*Устае туман па-над Шчарай волкі,*
*Ды бачыш ты, як Караткевіч Валодзя*
*Увішным Рыцаравым пахолкам*
*Плот ад вуліцы табе гародзіць.*

*І ніхто не пытае, хто, што, які,*
*Шчара памоўквае, поўная чараў, —*
*Ад Шчары ў навуку тут нацянькі,*
*Пра Днепр тут сніла*
*з Караткевічам Шчара.*

*І Быценю таго ўжо не забыць*
*Бяздушнай лазой, пустальгой у жыцце, —*
*Быць — гэта любіць, любіць — гэта быць*
*Вучыць Беларусь прафесар Быцень.*

І жніўня 1998

## Змірыся...

*"Змірыся, думны чалавеча!.."*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*А як мне, думнаму, змірыцца,*
*Які бяседы прагне, веча,*
*А не*
*Між маўчуноў нурыцца.*

*"Змірыся!... І гады ж не тыя,*
*Не тыя ногі, рукі, сэрца,*
*Святыя — блізка не святыя,*
*А блізкае — у паняверцы;*

*Змірыся, думны і разумны,*
*Змірыся, як гэта не сумна!.."*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Змірыся, хоць века трумны*
*Не апускае дух мой думны.*

10.06.1998

## Займеннік

*Табе... І ў гэтым ўсё жыццё!..*
*З табой... Яно таксама ў гэтым!..*
*Ты — забыццё і адкрыццё,*
*Ты — гэты свет, ты — антысветам.*
*Ты — светам мне, што не святы,*
*І антысветам, што са мною, —*
*Я — іхні вечны паняты,*
*Што не сасватаны манною.*

## Экзістэнцыя

*Экзістэнцыя:*
*Жыццё — не жыццё?*
*Час бяжыць,*
*Прастора стаіць,*
*І стаяць у ёй рэчы,*
*Толькі ідзе гадзіннік,*
*І яшчэ —*
*Шумяць*
*дрэвы,*
*мора,*
*крылы птушак у палёце;*
*Свецяць*
*сонца,*
*месяц,*
*зоры, вясёлка ў расе,*
*вочы каханай;*
*Б'ецца пульс.*
*А перастане...*
*Смерць — таксама экзістэнцыя?..*
*Найлепш між калыскай і трунай*
*У гэтай экзістэнцыі,*
*Хоць жыццё, як гануча,*
*Якую выкручваюць,*
*Аб якую выціраюць ногі,*
*На якую звысоку паплёўваюць,*
*Якую могуць выкінуць на сметнік,*
*У вакно электрычкі, рэйсавага аўтобуса*
*Ці ў кантэйнер,*
*Які ж таксама экзістуе,*
*Жыве — не жыве.*

## Жаль

*Боль громам пальне*
*У роднай хаце, —*
*Не Маці Божай жаль мне,*
*Роднай маці.*

*Сасна ці пальма,*
*Спакваля ці знянацку, —*
*Не Бацькі-Бога жаль мне,*
*Роднага бацькі.*

*І сум, і скруха*
*З Богам і без Бога, —*
*Не Хрыста мне жаль, не Святога Духа,*
*Сябе самога.*

## Мой край...

*Мой край —*
*Маё пекла,*
*Ды жыву ў ім,*
*Як бы ні секла.*

*Мой край —*
*Мой чысцец:*
*Пачатак*
*І канец.*

*Мой край —*
*Мой рай,*
*У тым раі*
*На злосць пеклу*
*Не паміраю.*

---

Уладзімір ЦІШУРОЎ



# Дзень мой — алень

●

*Хто мне падасць руку,*
*цераз нягодаў раку?*
*На беразе голым, пустым*
*ва ўзросце немаладым,*
*працяты болем глухім —*
*глытаю абразаў дым,*
*няверʼя глытаю дым,*
*бяздушша задушлівы дым...*
*Колькі стаяць*
*на беразе тым?*
*Пасівелым, немаладым...*
*А можа, прайшоў*
*мой час залаты*
*і сам я наслаў*
*гэты з'едлівы дым?*
*Адно маю права —*
*не быць нямым.*

●

Н.

*Я цябе люблю па-ранейшаму,*
*і любові ў сэрцы — не меншае.*
*А ў правіднасці ясныя вочы:*
*мне з табою побач —*
*не крочыць,*
*не раўня надвячорак дню,*
*я пустое табе гаманю...*
*Ты ідзі ў жыцця глыбіню*
*да высокіх нябёсаў.*
*Жадаю — святлейшага лёсу!*

●

*Роўны мой дзень,*
*ды няроўна дарога...*
*Дзень мой — алень*
*мчыць ад парога,*
*мчыць напрасткі,*
*да прыдуманай явы,*
*дзе прараслі*
*палынамі забавы,*
*згнілі маскі*
*да пачосткі і славы.*
*Славы не той,*
*што блішчыць медалямі,*
*а дзе спакой*
*і размова з сябрамі.*

*Рана збірацца*
*пад шэпат бярозаў,*
*йшчэ пажывём мо,*
*як глянуць цвяроза.*
*Кіну, забуду,*
*былое схаваю,*
*сэрца надзею*
*хоць нейкую мае —*
*ў клопаце жыць*
*майму верасню й маю,*
*мо пажыву*
*і не заўтра сканаю...*

*Імчы, мой алень,*
*ты не прывід, не цень,*
*а ў клопатах дзень!*

## Да маці-нябожчыцы

*Мама,*
*я цяжка хвараю,*
*мама,*
*памылка зрабілася драмай.*
*І грэх —*
*гэта не смех,*
*не вядзе да шчаслівых уцех,*
*а туды, дзе наспех*
*капаецца чорная яма.*
*Ты мне ўжо не паможаш, мама...*
*І ні духу твайго, ні душы.*
*Ну няўжо я грахамі*
*шлях завяршыў?..*

ПРОЗА

# АЧНІСЯ, СВЯТАЯ МАМА

## МАЛІТВА СЫНА

Уладзімір ЛІПСКІ



***Прапаную чытачам "ЛіМа" ўрывак з дакументальнай аповесці, якую прысвяціў памяці сваёй Мамы, сотым яе ўгодкам.***

**АЎТАР**

•

Пра святога Юр'я, божага пасла, напісана-перапісана.

А ў валачобных песнях ёсць адзнака, што менавіта з Юр'я ідзе адлік хрысціянскіх святаў:

***А ў той царкве прастол стаіць,***
***За прастолам сам Бог сядзіць.***
***Каля Бога ўсе празнічкі —***
***Катораму ўперад ступіць,***
***Першы празнік — святы Юра...***

У дзень святога вялікамучаніка Юрыя Мама нарадзіла мяне. У гэты дзень, пакуль усе ў кватэры спяць, складваю ранішнюю малітву:

"Мая святая пакутніца, мая сонечная цярплівіца! Нялёгка даўся табе апошні падскрэбак".

У той дзень у Шоўкавічах выганялі кароў на пашу. Прасілі Бога: каб карміліцы былі здаровымі і прынеслі прыплод, каб захаваў ніўкі ад граду, каб паслаў вясновую расу на ўраджай і на лекі.

А Мама раджала мяне ў Горвалі, у драўлянай лякарні. Быў панядзелак — цяжкі дзень.

Мама родная!

Ты зрабіла для мяне панядзелак пажыццёвым святам. У гэты дзень не жыву — лятаю. Светла думаецца. Хочацца працы, сустрэч, радасці і слёз.

Я пажыццёвы твой даўжнік, Мама.

Я вечны твой улюбёнец, матуля. Ты ў сорак два гады рашылася на подзвіг. Каб жа ты ведала, родная, як удзячны табе, што дала магчымасць спазнаць найвышэйшыя чалавечыя пачуцці і адчуць асалоду жыцця.

Мама!

Схіляю прад табой заснежаную галаву. Малюся за тваю чулую любоў, Мама, якой ты сагравала ў дні радасныя і ў дні хвароб. Можа, таму часта прачынаюся ноччу і хараша думаю пра цябе, прыгадваю, як ты сядзела нада мной, схварэлым, ды вуснамі грэла і горача туліла да сябе.

Мама!

Ты далёка ў нябёсах. І вельмі блізенька — у маёй душы, у маім сэрцы. І гэта повязь ніколі не парвецца. Малю дзяцей і ўнукаў, каб і яны навечна ўзялі ў памяць твой добраславёны вобраз. Цярпліва і доўга чакала нас у сваім высокім царстве, бо хто ж тады будзе спраўляць ранішнія малітвы па табе на грэшнай і святочнай зямлі?..

Чыстая і святая Марыя!

Хай святы твой воблік блаславіць мяне, твайго найменшанькага, збавіць ад бедаў і ўратуе. Злітуецца над тымі, хто зайздросціць мне і хто крыўдзіць мяне. Дасць моцы, веры, любові і здароўя маім дамачадцам і ўсім беларускім пакутнікам.

Абаронца мая любая!

Шаную цябе і бязмежна люблю сёння, у дзень святога Юр'я, увесь час і на векі вякоў. Амін".

•

Прыгадваю: ідзём нейкай лясной дарогай. На дрэвах і кустах — маладая, шалёная зеляніна. Птушкі спяваюць узнёслыя гімны. На чыстым небе — вясёлае сонца.

Мы вяртаемся з балотных хованак у свае спаленыя Шоўкавічы.

На папялішчы, дзе стаяла наша хата, кінуўся ў плач:

— Дзе мае цацкі?..

Мама ўзяла мяне на рукі, прысела на абсмыленую калоду, пачала супакойваць:

— Не плач, сынок, разжывёмся, будуць у цябе яшчэ лепшыя цацкі...

Спраўдзіліся маміны словы.

Цяпер у маіх унукаў, мінчукоў, столькі цацак, як у добрым магазіне. А ў мяне асабіста — музычны конік з Амерыкі, лялька, якая ўвесь час пахітвае галоўкай, з Кітая, смяхунчык на батарэйках з Германіі, рысавыя пляцёнкі з Карэі, балалаечка з Харватыі, кніжкі-маляванкі з Даніі, завадная малпа з Мексікі, свістулька з Бельгіі, Каласок і Калінка з Аўцюкоў...

Гуляю з цацкамі, а сэрца плача, што не магу пахваліцца імі перад сваёй Мамай.

•

Мой пляменнік Міша Сыцько часам падтрунівае нада мной:

— Малакасос.

І я, дзядзька яго, не крыўдую.

Атрымалася так: мая Мама і яе дачка Ліда разам выношвалі пад сэрцам дзяцей. Ліда была ўжо замужам за Сыцьком са Старыны.

Мама "хадзіла" шостым дзіцём, Ліда — першым. Маме — сорак два гады, Лідзе — дваццаць адзін.

Уяўляю, ідуць разам цяжарныя маці і дачка. Рэдкая прыгажосць!

Уяўляю, сядзяць недзе ў спальні і сакрэтнічаюць, даверліва і нароўні.

Ліда абрадзілася першай. І калі я малакасос, то ён — выскачка, вытыркач. На два месяцы раней дзядзькі вылупіўся на свет.

Заўсёды жартуем з гэтага пры сустрэчах.

І цяпер, ссівелыя, калі бяром па чарцы, то адну з іх — за памяць пра нашых мамаў, якія разам спачываюць у сасонніку, за Шоўкавічамі.

Мішу мне пажыццёва шкада.

Як жыў малым у Старыне, знайшоў міну. Гуляў з ёй, пакуль не рванула. Раны пазажывалі, а ў мове ад страху застаўся дэфект — заікаецца і шапялявіць.

Пасля вайны жылі ў Шоўкавічах: насупраць нашай хаты, праз вуліцу, стаяла іхняя хатка. Міша вучыўся і працаваў на валах. У млын ездзіў, снапы вазіў, дровы цягаў для калгаснай кармакухні.

Рослы. Прыгожы. Добры. Дужы.

Пасля школы вучыўся ў Навапольскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. І я, на правах дзядзькі і сябра, наведваў яго.

У арміі Міша служыў танкістам. І ўсё жыццё — у вёсцы на Пухаўшчыне. Быў і намеснікам старшыні калгаса, і парторгам, і дыспетчарам. Завёў сям'ю. Настаўніца-прыгажуня Святлана нарадзіла і выгадавала яму сына і дачку, а сама памерла. Рана памёр і яго меншы брат Шура. Памерла і мама Ліда.

Шкада мне Мішу.

Сіроты мы з ім.

А пры новай сустрэчы абдымемся і ўсміхнёмся. Ён абзаве мяне "малакасосам", а я яго — "выскачкай".

•

Пішу, прыгадваю пра Маму толькі ранкам. На ўзыходзе сонца. Гэта мае ранішнія малітвы.

Перад акном стаіць мой пісьмовы стол і я каторы ўжо дзень бачу, як на небасхіл выкатваецца свяціла нябеснае. Момант урачысты, божы. Як бы сам Уларад сядае на трон, зыркай свечкай асвятляе зямныя абшары і як бы кажа: "А ну зірну, што мае чалавекі робяць, чым займаюцца!"

Ды, напэўна, кожным разам расчароўваецца Уладар. Дрыхнуць яго пасланнікі на зямлі. Мала хто бачыць узыход сонца. Мала хто моліцца новаму дню. Мо адсюль уся грэшнасць, усе беды?

Мама мая Марыя кажынны дзянёчак сустракала ўзыход сонца. Ідзе з даёнкай у хлеў. Ногі расой абмые. Прыпыніцца каля брамкі, зірне на агарод, а за ім, паміж дубамі — сонца на троне. Перахрысціцца. І заварушацца вусны:

"У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амін.

Божа, будзь літасцівы да мяне, маіх дзетак, маёй хаты. Памілуй нас, Госпад Ісус.

Слава табе, Уцяшыцель, што ўсюды прысутны і ўсё напаўняеш. Прыйдзі і ўсяліся ў душах дзетак маіх. Ачысці нас ад усяго благога, збаў правіны нашы. Навядай нас і аздараві немачы нашы дзеля імя твайго. Ойча наш нябесны!

Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і не дай нас у спакусу, збаў нас ад злога.

Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу. Амін".

Я не чуў маміных малітваў. Услых яна іх ніколі не прамаўляла. У царкву не хадзіла. Яны, маўклівыя маміны малітвы, цяпер самі адгукаюцца ў маёй душы. Кожнае слова — як удар сэрца. А калі сэрца б'ецца, яно жыве.

Дзякуй, Мама, што і сёння разбудзіла на ўзыходзе дня. Нізкі паклон, мілая, што каналамі памяці, праз Млечны Шлях, перадала мне сваю ранішнюю малітву. Буду ёй сустракаць кожны новы дзень свайго жыцця.

•

Ніколі не чуў, каб Мама што-небудзь гаварыла пра Сталіна, Леніна, Хрушчова, пра ўлады, іх мудрыя рашэнні і выбрыкі.

Запомніў толькі яе твар, як прыходзіў у хату страхагент. Пасля вайны ў такой галыцьбе жылі, а ён, сыценькі, з партфелем да пятаў, укоціцца ў хату і пачынае жылле вымотваць. Плаці падаткі за соткі, за дрэўцы ў агародзе, за цялё, свінчо, курчанё.

— А каб вас пранцы ўзялі, — аднойчы не вытрымала Мама, калі раённы вышкрабайла бразнуў дзвярыма.

А звычайна Мама ціха сядзела ў запечку і пазірала, як бацька за сталом разбіраўся з агентам. Тоўстымі пальцамі пералічваў рублі, быццам адрываў ад сябе латкі скуры. Узамен гэтай мазольнай каштоўнасці пузаценькі чыноўнік даваў бацьку квіток, маленькую паперку, з якой нават добрай цыгаркі не скруціш.

Мама ў гэты час пазірала ў нейкую сваю далячынь і напружана маўчала. Пра што думала?

Цяпер, з вышыні гадоў, мне здаецца, Мама звярталася да заступніка нябеснага, прасіла, каб на ўсёй зямлі і ў нашых Шоўкавічах запанавала справядлівасць, каб драпежнікі абміналі нашу хату і двобрышча.

Мамінай палітыкай былі мы, дзятва. Каб не галадалі. Каб знайшлося чым цела прыкрыць. Каб, не давядзі Божа, не выраслі гультаямі. Каб не разбэсціліся. Каб сталі людзьмі.

Як бы мне хацелася зараз прытуліцца да Мамы. Не хапала "клёпак" рабіць гэта часцей, як яна была жывая...

•

Маміны ўрокі ясныя і простыя.

Во, збірае мяне пасвіць карову. На ногі ўстырквае буркі з бахіламі, каб не замачыў ног. На плечы накідвае сваю святочную плюшаўку, каб не схаладаў, На галаву завязвае сястрыну хустачку — ад машкары, а зверху шапку — каб не прастудзіўся. Вешае палатняную торбачку цераз плячо. А ў ёй — скарынка хлеба, шматок сала, бутэлька малака: каб жа хаця не згаладаўся. Дае пастушку лазовы дубец і кажа:

— Глядзі ж, сынок, каб Красуля ў калгаснае не залезла, каб на чые соткі не зазыкавала, каб у лесе не згубілася. Напасві, каб поўную даёнку малака дала...

— Добра, Мама!

Мне падабалася, што мне давяралі дарослую справу. Гэтым я ўзвышаўся над вясковай малечай.

Мне даспадобы было, што Мама збірала мяне на працу гэтак жа, як бацьку, старэйшых братоў, сясцёр.

Красуля ж, як адчула вольніцу за поплавам, як убачыла нягеглага пастушка, пачала паказваць свой нораў. Раз — і ўжо каля Мішчуковага агарода. Лячу напярэймы, аж торба адрываецца ад плячэй. Адганю ад патравы, а карова рогам лесу цягнецца на Дуброву, дзе даспявае калгасная бульба. І я забягаю з боку дубняку, махаю дубцом.

Сеў узмакрэлы на пянёк. І Красуля сцішылася, шаткуе і шаткуе траву на зялёнай, лясной сцяжыне. Так апетытна, аж мне сала захацелася. Толькі раскрыў торбу — птушкі акружылі, вавёрка спусцілася з елкі. Авохці мне, колькі едакоў на дармаўшчыну.

Пакуль частаваў, глядзь — каровы няма. Лётаю туды-сюды, а Красулі і след прастыў. Пераняў ажно ля Задзірэеўскай сенажаці...

На схіле дня вярнуліся мы дамоў.

Красуля, наетая і супакоеная, павольна перабірала нагамі, лянівa памахвала хвастом-мяцёлкай. Ішла сцяжынкай, якая вяла проста ў наш двор.

А я ледзь плёўся за ёй. Цяжкія бахілы быццам спуталі ногі, маміна плюшаўка здавалася чыгуннай, а дубец — жалезным прутам.

— Мой ты пастушок, — кінулася Мама да мяне, расцалавала. — Памочнічак мой залаты...

Яна загнала карову ў хлеў, а мяне павяла ў хату. Распранала і распытвала. Я расказваў, як цяжка было пасвіць карову. Мама толькі й паўтарала:

— Залаценькі мой, любенькі мой... От і дачакаліся ад цябе помачы...

Мама ўсадзіла мяне на печ, дала ўсяго смачненькага, што было ў хаце. І нават куплёных цукерак-падушачак.

Увесь вечар, як сабралася сям'я, толькі і гаворкі было пра мяне, пастушка. Мяне ўзвысілі і ацанілі. І я паверыў, што ўжо не такі і малы. Пара ў школу!..

•

Замурзаны сёння ўсход.

Нячысцік захмарыў неба, не хоча пакідаць ноч. Як бы ўпіраецца, пасоўвае шэрую кудзелю на золак.

А я прачнуўся ў добрым настроі. Таму і бяру для ўспаміну вясёлыя фарбы. Бяру чырвоную і жоўтую, змешваю. Атрымліваецца не агністая, не як грэбень у пеўня, а цёпла-сонечная. У гэта святло перакідваецца масток памяці.

Вераснёвая раніца 1947 года. Сонечна на небе. Загадкава святочна ў душы. Мама вядзе мяне ў першы клас.

Школа тады была ў Леўкавай хаце. Гэта, як выйдзеш з нашай, трэба мінуць хаты Трацэўскіх, Паўловічаў, Маркавых, Козыраў, Бабічаў, Новікаў, Бельскіх. Вось ты і ў школе.

Не памятаю ўсе свае ўборы ў той дзень. Але на ўсё жыццё ўсеклася, што на нагах былі лапці. Бацька сплёў з луцця. Абадраў ліпку на лыка для свайго першакласніка.

Лапці з луцця пляліся на выхад у людзі, для вечарынак. Гэта ж не тое, што лапці з лазы. У іх толькі кароў пасвіць, сена касіць. Яны хутка чарнеюць, вушкі рвуцца. А з луцця лапці беленькія, парыпваюць пры хадзьбе, як боты ў пана Быкоўскага.

Расказваю цяпер дзецям сваім, Ігару і Марыне, што ў першы клас пайшоў у лапцях, — не вераць. А ў той год нас апанаваў страшны голад. Вясною збіралі па палетках гнілую бульбу, пяклі аладкі. З жалудовай мукі замешвалі хлеб. З лебяды і крапівы варылі супы. Не да ўбораў было, толькі б выжыць...

І вось ідзём з мамай па пыльнай вуліцы. А мяне аж распірае ад радасці. Верабей ціўкне, і я свісну яму ў адказ. Певень кукарэкне, і мне хочацца кукарэкнуць, паздароўкацца з ім. У сваім двары хваравіта закашляла Аршулька Бельская, і я закашляў, перадражніў. Тут ужо Мама і прыпыніла мяне:

— Што ж ты робіш, сынок?.. Хіба можна са старых насміхацца?.. А калі настаўніца пра гэта даведаецца?..

Тут я і абмяк. І дайшло да мяне, што адгуляў, аддзяцінеў. Пара адказваць за свае "конікі".

Настаўніца Аляксандра Лявонаўна багата чаму навучыла мяне: пісаць літары і чытаць кніжкі, лічыць і маляваць, дэкламаваць вершы і спяваць.

А Мамін урок — зарубка ў сэрцы на векі вечныя. Паважай старасць. Не смейся з нямоглых. Дапамажы слабаму. Мамінай навукай мацую сваю душу.

•

Сяджу за пісьмовым сталом. Гарыць лямпа. За акном барабаніць вясновы дожджык. Гудзяць машыны. На даху цырка, які бачны мне з сёмага паверха, любяцца галубы і прабягуць адзін за адным, чмокнуцца дзюбкамі — вось і дамовіліся...

Абуджаецца Мінск.

Падымаюцца з цёплых пасцеляў замілаваныя і закаханыя. Пакідаюць халодныя ложкі аўдавелыя і сіратлівыя...

А я на крылах памяці і любові зноў лячу ў свае Шоўкавічы.

Ды на гэты раз не далящеў.

У дзверы ціха пашкрэбаліся, і на парозе — Маша.

— Унучачка, чаго не спіш?

Бяру на рукі, тулю да грудзей дарагі камячок. Лашчыцца, просіць:

Раскажы казку.

І я пачынаю:

— Жыла-была Мама. Звалі яе Марыя. Аднойчы яна нарадзіла хлопчыка Валодзю. Рос, рос той хлопчык і вырас. Ажаніўся з дзяўчынай Нінай. І пайшлі ў іх свае дзеці — Ігар і Марына, а ў дзяцей свае дзеці — Антон і Маша...

— Гэта казка пра нас? — здзівілася Маша.

— Пра нашу сям'ю, Машачка.

Паказваю ўнучцы фотку сваёй Мамы. Яна доўга ўзіралася ў яе. Пасля банцікам ружовых губак пацалавала прабабку, маю Маму.

Расчуліла мяне Маша на цэлы дзень.

Расці, дзяўчынка, і стань мамай, пра якую нехта захоча напісаць сваю малітву...

ТЭАТР

# "Тым, хто ў падмурку піраміды..."

Такое прысвячэнне мае новы спектакль Купалаўскага тэатра "Піраміда Хеопса", пастаўлены В. Раеўскім па п'есе маладога пецярбургскага драматурга Ю. Ломаўцава. Як вядома, піраміда Хеопса была ўзведзена ў 2590—2568 гг. да н.э. І сёння з'яўляецца адным з цудаў свету, на які нельга глядзець без захаплення і зачаравання. І ўсе, хто наведвае Егіпет, ведаюць, што гэты цуд пабудаваны на касцях мільёнаў людзей. Але ні аўтар гэтых радкоў, ні тэатр не збіраюцца расказваць старадаўнія легенды. У цэнтры ўвагі спектакля — звычайныя сучасныя людзі, якія займаюцца штодзённымі справамі — ходзяць на работу, гатуюць ежу, спрачаюцца, пакутуюць, любяць і ненавідзяць. Але менавіта яны, як і шмат гадоў назад егіпцяне, будуюць цудоўную піраміду адыходзячага стагоддзя, якой ніколі не ўбачаць. І назаўсёды застануцца ў яе падмурку, засыпаныя пяском.

Падзеі п'есы і спектакля на першы погляд здаюцца простымі і даўно знаёмымі. Тэатр дэманструе гледачу зрэз жыцця сучаснай сям'і, даведзенай да адчаю, спакутаванай перажываннямі, непаразуменнем і недаверам адзін да аднаго. Аднак у пастаноўцы В. Раеўскага, на першы план выходзіць не быт і не банальныя штодзённыя праблемы, а тое, што хаваецца ўнутры, у глыбіні кожнага персанажа, які па-свойму перажывае катастрофы адыходзячага стагоддзя. Іншымі словамі, кожны з герояў спектакля нясе свой крыж, пры гэтым стараючыся вырвацца з даўно ўжо абрыдлых законаў паўсядзённага жыцця.

Рэжысёрская задума вельмі дакладна падкрэслена і ў сцэнаграфіі Б. Герлавана. Мастацкае афармленне спектакля выразнавобразнае, насычанае канкрэтнымі дэталямі і прадметамі. Усю сцэну запаўняе выразаны з матэрыі падмурак піраміды. Яе ж грані акрэсліваюць шнуры, якія змыкаюцца высока пад купалам сцэны. У цэнтры размяшчаецца дзіцячая пясочніца з натуральным пяском і яркімі дзіцячымі цацкамі. Час ад часу залаты дождж з пяску будзе струменіцца зверху, паступова засыпаючы невялікую прастору сцэны, якая сімвалізуе, магчыма, і такое кароткае жыццё і ўсё незабыўнае, што звязана з ім. У колерах спектакля пераважаюць чорна-зялёныя фарбы, якія набываюць свой аб'ём і прыгажосць у промнях яркіх пражэктараў. Мастаком усё пададзена так, каб прыцягнуць увагу гледача да акцёраў і вобразаў, створаных імі.

Прэм'ера Купалаўскага тэатра вызначаецца цікавымі, нечаканымі акцёрскімі работамі. У спектаклі заняты два склады акцёраў. У першым: Л. Давідовіч, Г. Гарбук, М. Кірычэнка, С. Зелянкоўская. Свядома хачу засяродзіць вашу ўвагу на другім складзе, які, на мой погляд, найбольш дакладна і выразна даносіць да гледача рэжысёрскую задуму. Г. Фёдарава, У. Рагаўцоў, А. Гарцуеў і С. Зелянкоўская ствараюць у спектаклі адзіны акцёрскі ансамбль, у якім кожны здольны адчуваць і разумець адзін аднаго. Названыя акцёры ўпершыню працуюць на сцэне разам. І тым не менш, дзякуючы В. Раеўскаму, іх персанажы жывуць на сцэне нейкім новым, крохкім, а таму, не маючым цаны, жыццём.

Прыцягальны, да глыбіні драматычны вобраз стварае актрыса Г. Фёдарава. Яна іграе Маці — Сямёнаву. Бадай што, гэта адна з самых вялікіх і цікавых роляў актрысы, створаных ёю ў тэатры. Для Г. Фёдаравай гэта ўзроставая роля. Яе гераіня на год дваццаць старэй за выканаўцу. Але для актрысы галоўным становіцца не знешнасць, а характар, унутранае жыццё вобраза. Яе Сямёнава — знешне стрыманая, спакойная, засяроджаная ў сабе жанчына. Але ў яе маналогах і словах сканцэнтравана столькі назапашанага болю і расчараванняў, што становіцца відавочна — сваё жыццё яна ўжо пражыла. Адзінае, што звязвае яе з людзьмі і трымае за гэты жорсткі і рэальны свет — успаміны пра любімага сына Юрачку, які загінуў на чачэнскай вайне. Са смерцю сына гераіня Г. Фёдаравай пачынае разумець, што жыла няправільна, усё жыццё малявала трохкутнікі з надпісамі "базіс" і "надстройка" і ўвесь час памылялася. Ёй здаецца, што гібель Юрачкі — расплата за яе бяздарнае жыццё. І што нічога ўжо перамяніць нельга. Усе страчана назаўсёды.

Г. Фёдарава даводзіць ролю да канца, застаючыся на высокай, напружанай ноце, што дазваляе ёй данесці да гледача ўсю глыбіню перажыванняў і пачуццяў гераіні.

Сямёнаў у выкананні У. Рагаўцова паўстае перад гледачом ісцінным інтэлігентам. Адукаваным і разумным чалавекам. Ён клапатлівы і пяшчотны ў адносінах да жонкі, якую аберагае ад нечаканага гора і імкнецца каханнем запоўніць пустату яе існавання. Герой Рагаўцова імкнецца дапамагчы старэйшаму сыну ва ўсіх яго непрыемнасцях. Ён заўсёды надзвычай уважлівы да яго, тактоўны ў адносінах з Таццянай, палюбоўніцай Аляксея. Сямёнаў Рагаўцова даўно ўжо не цешыць сябе ілюзіямі наконт "светлага будучага". Ён разумее, што новага жыцця яму ўжо ніхто не падарye. І таму патрэбна берагчы тое, што маеш. У новым купалаўскім спектаклі акцёр Уладзімір Рагаўцоў тонка прадэманстраваў свой высокі прафесіяналізм, здольнасць да нечаканых унутраных пераўвасабленняў.

Яркім, незвычайна складаным па сваёй псіхалагічнай напоўненасці атрымаўся вобраз у А. Гарцуева. Як мне здаецца, гэта адна з першых значных работ гэтага акцёра на купалаўскай сцэне. А. Гарцуеў, натхнёна іграючы Аляксея, дае магчымасць гледачу спрычыніцца да трагедыі чалавека, якому ў жыцці хацелася ўсяго толькі — дыхаць на поўныя грудзі, кахаць і быць каханым. Аляксей Гарцуева імкнецца заўсёды быць самім сабой, ісці сваім шляхам. А лёс, нібы наперакор, карае яго за гэта. Адбірае пачуцці, любімых людзей і прымушае ўсё пачынаць спачатку. І, магчыма, у нейкі момант, Аляксей зразумеў, што выйсця няма, усе намаганні дарэмныя. І таму ён стаў жорсткім да ўсяго свету, нават да роднай маці. Герой Гарцуева знаходзіцца на мяжы адчаю, нервовага зрыву. Але ён умела стрымлівае эмоцыі, трымае сябе ў руках, і нават знаходзіць сілы, каб зрабіць аналіз уласнага жыцця: "...Я жыў шэра, тупа, бяздарна... Гэта так... Мне патрэбна, каб змяніўся свет..." Але свет наўрад ці можна змяніць, калі лёс за адным ударам шле наступны. Ён адбірае ў Аляксея апошнюю надзею — яго сын нараджаецца мёртвым...



Таню, суседку Сямёнавых па камунальнай кватэры, іграе ў спектаклі С. Зелянкоўская. Яе гераіня абаяльная, чулівая, замкнёная ў сабе. Жыццё Тані толькі пачынаецца, але ўжо поўнае страт і расчараванняў: зусім нядаўна загінуў на вайне каханы Юрачка, няма поўнага ўзаемаразумення з яго бацькамі. Усё навокал здаецца сумным і шэрым. Маладая жанчына не хоча мяняць сваё жыццё. Ёй здаецца, што пасля смерці каханага чалавека вакол яе ўзнікла нейкае кола, якое ўсё, што належыць Тані, адбірае, зацягвае ў сябе. Паглынае яе энергію і прагу жыцця (нават дзіця ад Аляксея нараджаецца мёртвым). І ў нейкі момант узнікае прызнанне: "Я нечакана забылася, хто я на самай справе..." Але дзесьці далёка, у глыбіні душы, маладая гераіня, напэўна, марыць і аб каханні, і аб іншым, новым жыцці, поўным паэзіі і прыгажосці. Прыгадваецца расказ Тані пра яе прагулку па горадзе, пра яблычны пірог, які ёй вельмі хацелася купіць. Яе словы гучаць у спектаклі, як паэтычныя радкі, а не пераказ нейкага звычайнага банальнага эпізоду. Магчыма, нашы кароткія сустрэчы ў метро, у вулічных пераходах, кароткія, кінутыя адзін аднаму фразы — і складаюць паэзію паўсядзённага быцця.

Спектакль Купалаўскага тэатра асабіста ў мяне выклікае цэлы шэраг асацыяцый, філасофскіх роздумаў аб Сусвеце і чалавеку ў ім. Спектакль, здавалася б, без прэтэнзій на касмічныя абагульненні, выходзіць далёка за межы дома і быту і якраз робіць такія абагульненні. За дыялогамі і словамі герояў спектакля прачытваецца значна большае, чым крыўда адзін на аднаго і нават невыносная горыч і страта самых блізкіх і любімых людзей. Так, жыццё не бясконцае. І часцей за ўсё, пражыўшы шмат гадоў, у ім нічога нельга перарабіць і выкрасліць з уласнай памяці. Але пакуль чалавек жыве, гэта жыццё належыць толькі яму. Яго ўласным думкам і пачуццям. У любых абставінах, нават самых невыносных, чалавек ніколі не жадае страціць сваю душу, як і кожны з герояў спектакля. Нават калі гэта душа паранена і стамілася ад пакут, усё роўна, яна дадзена небам і таму марыць скінуць з сябе ўсё матэрыяльнае, надакучлівае і непатрэбнае.

І калі прыслухацца, то нельга не пачуць высокіх слоў паэзіі ў маналогах Маці — Г. Фёдаравай, калі яна ўспамінае, трызніць, марыць аб сыне, які назаўсёды пакінуў гэты свет; у пяшчотна-сумным маналогу Бацькі — У. Рагаўцова аб уласным жыцці і надыходзячай смерці; нават эмацыянальна-жорсткія абвінавачванні Аляксея — А. Гарцуева ў адрас Маці складваюцца ў бясконцы белы верш, у якім побач з нянавісцю не можа не існаваць чалавечай любові...

Спектакль, створаны В. Раеўскім і Б Герлаванам, на маю думку, экспрэсіяністычны па сваім гучанні. Станы герояў у ім дакладна неакрэслены, асобныя ж пачуцці пададзены буйнымі, смелымі штрыхамі. Невыпадкова ён нагадвае мне таямнічую карціну, дзе, па словах Кандзінскага "...розныя душы — розныя душэўныя гукі, а значыць і розныя формы: розныя гімны фарбаў, розныя ключы пабудовы..." Поліфанічнасць узаемаадносін і станаў герояў удала падкрэслівае музыка Каміла Сен-Санса і Д. Шастаковіча (музычнае афармленне В. Капыцько).

Усе героі спектакля складаюць адну сям'ю. Больш блізкіх людзей няма ў гэтым свеце. І няма больш, чым яны, — далёкіх, разрозненых, адзінокіх. Маці, Бацька, Аляксей, Таня — кожны з іх мае права на сваю праўду, свае погляды на жыццё. Але кожны з іх і па-свойму няшчасны. Адчайна імкнуцца яны змяніць надакучлівыя будні, але цяжар мінулага балюча ціісне, не дае жаданай свабоды, не дае выйсця з тупіка.

Спектакль Купалаўскага тэатра не мае традыцыйнага шчаслівага канца. У фінале з'яўляецца Бацька і паведамляе аб тым, што Таня нараджае мёртвае дзіця. Жыццё герояў не мяняецца ў лепшы бок, але калі яно падаравана Богам, то павінна працягвацца, нягледзячы ні на што. І, магчыма, не ўсё ў ім так дрэнна. Мне нездарма прыгадваюцца радкі аўтара п'есы: "Мы памыляліся разам з усёй краінай. Не ўсё было так блага. Ва ўсіх было дзяцінства. Была адна праведная вайна і шмат роспачных намаганняў зрабіць жыццё лепшым".

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

*На здымку: сцэна са спектакля "Піраміда Хеопса".*

*Фота А. ПРУПАСА*

КАНЦЭРТЫ

# Спадкаемцы "Менска"

Знаёмства з аркестрам народных інструментаў "Менск" адбылося на старонках "ЛіМа" пяць гадоў таму. Пачатак яго творчага жыцця быў гучны і незвычайны: калектыў не меў дзяржаўнай грашовай падтрымкі, фундаваўся спонсарам, забяспечваў працай маламаёмных маладых музыкаў, пераважна студэнтаў-"народнікаў", рыхтаваў эфектныя праграмы з удзелам вядомых салістаў. Але з часам абвастрыліся арганізацыйна-фінансавыя праблемы. І ўрэшце назва "Менск" зусім знікла з канцэртных афіш...

А вось нядаўна загаварылі пра новы калектыў — Камерны канцэртны аркестр народнай і папулярнай музыкі. Загаварылі як пра творчага пераемніка "Менска", бо жывяць яго дзейнасць ідэі тых самых энтузіястаў, што імкнуліся паспрыяць самарэалізацыі маладых выканаўцаў у сярэдзіне 90-х.

Новы аркестр існуе пры Дзяржаўным аб'яднанні "Белканцэрт", мае салідната мастацкага кіраўніка — знанага кампазітара, прафесара Яўгена Глебава, выступае пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Віктара Валатковіча. Увагу музычнай грамадскасці прыцягнула выступленне калектыву ў Вялікай зале сталічнай філармоніі падчас леташняга фестывалю "Беларуская музычная восень". Разнастайная праграма нетрадыцыйнага "руска-беларуска-акадэмічнага" інструментальнага складу засведчыла імкненне "гадавалага дзіцяці" заваяваць сімпатыі самай шырокай публікі.

Некалькі выступленняў у сталіцы. Шэраг запісаў на радыё. Першыя водгукі ў друку... Няблага для пачатку? Але музыкі сваёй энергічнай дзейнасцю нібыта заклікаюць: "Прыгледзьцеся да нас! Прыслухайцеся! Мы спрабуем сябе ў розным і на многае здатныя ўжо сёння!"







І сапраўды. Нядаўна малады аркестр даў магчымасць публіцы больш дэталёва разгледзець сваё мастацкае аблічча. У зале, што на Залатой Горцы, выступілі яго ансамблі. Камерны інструментальны склад пад кіраўніцтвам В. Валатковіча, трыо (балалайка, домра, баян), секстэт балалаек, квінтэт драўляных духавых, брас-квінтэт, актэт "народнікаў"... Былі адметныя салісты: Марына Ільіна, Наталля Змітровіч, Вікторыя Старыкава... Былі эфектныя "галасы" акардэона і мандаліны... Былі віртуозныя п'есы. Музыка руская, аргенцінская, італьянская, амерыканская. Грыг, Бах. Гучалі творы двух беларускіх аўтараў: Г. Ермачэнкаў, Р. Сурус. Канцэрт адбываўся з удзелам спрактыкаванага "музычнага гіда" — Іны Зубрыч.

Крохкае ўражанне "першых крокаў" ураўнаважвала цёплая падтрымка залы. Асаблівую павагу выклікала стварэнне нязвыклай для цэласных аркестравых калектываў "інфраструктуры". Мудрая задума! Існаванне мабільных, малалікіх па колькасці ўдзельнікаў, ансамбляў можа забяспечыць усяму калектыву высокую "манеўранасць": дуэт, а то і квінтэт, здатны выступаць нават у салоне, на гастролі лягчэй выправіцца невялікімі групкамі па некалькіх маршрутах, чым усім хаўрусам у адзін бок...

У фарміраванні рэпертуарнага аблічча, адметнага "гукавога вобраза", у прафесійным сталенні няхай паспрыяюць парады старэйшых майстроў, уласная працавітасць. Няхай мастацкая інтуіцыя і густ дапамогуць аркестру знайсці сябе ў беларускім музычным свеце. І — знайсці сваё ўласнае імя...

**С. ВЕТКА**

*На здымках: з іх складаецца аркестр...*

*Фота У. САПАГОВА*

## У Коласавым доме



Нядаўна пісьменнік і перакладчык Мікола Татур адзначыў сваё 80-годдзе. З гэтай нагоды ў літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, адбыўся літаратурны чацвер, на якім быў ушанаваны юбіляр.

М. Татур добра ведаў дзядзьку Коласа, а цяпер падтрымлівае сяброўскія адносіны з Коласавым домам. Гэта адзначыла ў сваім віншаванні дырэктар музея Зінаіда Камароўская.

Першае сваё знаёмства з перакладамі юбіляра яшчэ ў школьнай бібліятэцы (гэта былі "Стажары" А. Мусатава) прыгадаў літаратуразнавец, крытык Міхась Кенька.

Некалькі гадоў побач з Міколам Ігнатавічам працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР Арсень Ліс. Ён падзяліўся са слухачамі ўспамінамі пра той час, падкрэсліў, што юбіляр стварыў цэлую перакладную бібліятэку. Гэта пераклады з рускай мовы твораў М. Прышвіна, А. Гайдара, В. Ажаева, М. Нікіціна, з польскай — К. Брандыса, Г. Запольскай, Я. Гушчы і іншых. У яго перакладзе выйшлі раманы "Зялёная зорка" У. Умарбекава, "Дзень нараджэння" А. Венцлавы, "Трэція пеўні" А. Лупана...

Паўлюк Пранузa, які ў мінулым годзе адзначыў такую ж ганаровую дату, прачытаў верш, прысвечаны юбіляру.

З цёплымі, сардэчнымі словамі віншавання ў адрас віноўніка вечарыны выступілі яго сябры, пісьменнікі Іван Кудраўцаў і Мікола Аўрамчык.

Сам юбіляр згадаў шматлікія эпізоды са свайго цікавага, насычанага рознымі падзеямі жыцця, прачытаў свае эпіграмы. Ён выказаў шчырыя словы падзякі ўсім, хто завітаў у той дзень у Коласаў дом.

Ансамбль народнай музыкі "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука падрыхтаваў да вечарыны невялікую музычную праграму.

Вядучым гэтай літаратурнай сустрэчы традыцыйна быў старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека.

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Баравікі — вёска паэтычная

Згадзіцеся, ці не прыцягальная, паэтычная назва вёскі? Напэўна, кожны, пачуўшы гэткі назоў, успомніць свае любімыя грыбныя мясціны. Ды і грыбы не абы-якія — баравікі...

Менавіта ў гэтую вёску — вёску Баравікі Дзяржынскага раёна накіраваўся дэсант пісьменнікаў па запрашэнні дырэктара тутэйшага Дома народнай творчасці Марыі Антонаўны Рагозы. Прыехалі сюды лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч, намеснік рэдактара гэтага ж часопіса Казімір Камейша, дырэктар і рэдактар выдавецтва "Юнацтва" Алесь Камароўскі і Яўген Хвалей, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" Мікола Маляўка, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Всемирная литература" Віктар Супрунчук.

Поўная зала баравікоўцаў вітала гасцей, слухала іх творы, якія яны чыталі ўперамежку з выступленнямі мясцовых самадзейных артыстаў. Выдатна, з натхнёнасцю вяла вечарыну сама М. А. Рагоза. Вяскоўцы яшчэ раз пераканаліся, што слова пісьменнікаў — гэта магутны зарад для іх працы, жыцця, якое цяпер, як вядома, нялёгкае. І прасілі, каб творцы прыязджалі да іх часцей.

**Яўген КМЕН**

*АНТАЛОГІЯ КРАЁВАГА ВЕРША*

# Уздзеншчына

Уздзеншчына — літаратурнае гняздо Беларусі. У яго цяпле хто толькі не вылупіўся на свет Божы! Паўлюк Трус, Кандрат Крапіва, Пятрусь Глебка, Алесь Якімовіч, Алесь Пальчэўскі, Антон Бялевіч, Ілья Гурскі, Алесь Махнач, Лідзія Арабей...

Не замерла там творчае жыццё і сёння. Прычым літаб'яднанне "Нёманец", якое ўзначальвае Віктар Сабалеўскі, не толькі шматлікае, але — што не менш важна — актыўна творчае.

Людзі збіраюцца, чытаюць, абмяркоўваюць, ездзяць, выступаюць, супрацоўнічаюць, выдаюць...

Так, так — выдаюць. Вось што піша ў сваім суправаджальным лісце да гэтай "уздзенскай анталогіі" намеснік рэдактара раённай газеты "Чырвоная зорка" (хоць і *чырвоная*, а не *звязда*) В. Сабалеўскі: "За пяць апошніх гадоў сіламі літаб'яднання ў друкарнях і выдавецтвах Мінска, Нясвіжа, Узды пабачыла свет каля дваццаці (20 — !!! — *Л. Г.*) кніжак уздзенскіх літаратараў..."

А мы ўсё сядзім, склаўшы рукі, у сталіцы ды молімся на Георгія Марчука, быццам той, як Хрыстос, падзеліць пароўну пяць "хлебных" пазіцый на 500 саюзапісьменніцкіх шырока разяўленых ратоў... Дудкі. У нас, калі пачынаюць дзяліць, то абавязкова рвуць. А што з "рвані" склеіш?!

І ўвогуле, а ці не занадта многа ў нас песімізму напрыканцы XX стагоддзя... Разнылiся, як бамжы: падайце нам, напраміілы Бог — нашу мову, харугвы нашы, хлеб наш...

Ідзіце ды вазьміце.

А былі ж часы! Былі людзі! Ды, зрэшты, яшчэ й па сёння засталіся. Як, вунь, васьмідзесяцігадовы Мікалай Кароль усё з той жа шырокавядомай вёскі Нізок:

*Стаю, наўкола паглядаю:*
*На сваю вёску, родны край.*
*Дык будзь бадзёры, Мікалаю,*
*І вершы новыя складай.*

Чаго і вам жадаю.

**Л. ГАЛУБОВІЧ**

## Мікалай КАРОЛЬ



Мікалай КАРОЛЬ нарадзіўся ў 1920 годзе ў пасёлку Ластаўшчына, што на Уздзеншчыне, але ўсё сваё свядомае жыццё пражыў у вёсцы Нізок, якую ў літаратурных колах называюць паэтычным гняздом Беларусі. Працаваў настаўнікам, цяпер — удзельнік фальклорнага гурта "Нізаўскія музыкі". Аўтар вершаванай кніжкі "Дарогамі жыцця".

### Мая вёска

*Мая ты вёска, ты мне люба,*
*Заўсёды ў сэрцы ты са мной.*
*Цябе не бачыць — часу згуба,*
*Бо без цябе я сам не свой.*

*Люблю цябе ў любую пору:*
*У лета цёплае і снег,*
*Твае бязмежныя прасторы*
*І дзетак звонкі чысты смех.*

*Тут рэчка Вуса каля хаты,*
*І чутны песні салаўёў.*
*Нясуць з сабою зноў дзяўчаты*
*Пах кветак, сена і лугоў.*

*Стаю, наўкола паглядаю:*
*На сваю вёску, любы край.*
*Дык будзь бадзёры, Мікалаю,*
*І вершы новыя складай!*

## Валянціна РОГАЧ



Валянціна РОГАЧ (Валянціна Фёдараўна Чарнюк) нарадзілася ў вёсцы Яршы Уздзенскага раёна. Скончыла біялагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай, а цяпер — намеснікам дырэктарам па выхаваўчай рабоце Цяляпаўскай СШ. Вядомая на Уздзеншчыне як бард. Друкавалася ў раённай газеце.

### Першы снег

*Ты вернешся, калі стамлюся я чакаць.*
*І сэрца затрымціць трывожнай птушкай.*
*Твае далоні безразважна цалаваць*
*Мне суджана забытай папялушкай.*

*Падорыш іншай ласку і пяшчоту.*
*Прыветліва прытулішся ўначы,*
*Не ведаючы стомы адзіноты...*
*(О сэрца! Не бунтуй! Цярпі, маўчы!)*

*Пасцелеш сцежкі белым ручніком*
*І велікоднай чысцінёй адбеліш грэх...*
*Маёй душы: кахаць цябе цішком,*
*Мой любы, мой адзіны — Першы Снег...*

## Клаўдзія РОГАВА



Клаўдзія РОГАВА нарадзілася ў 1954 годзе ў г. Капылі. Вучылася ў Магілёўскім бібліятэчным тэхнікуме і Мінскім інстытуце культуры. Працавала бібліятэкарам на Шчучыншчыне, у Капылі, а цяпер — у г.п. Узда дырэктарам цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Друкавалася ў калектыўным зборніку "Край мой там, дзе Нёман ліецца", у раённым і рэспубліканскім друку.

•

*Сумётам на сэрца лёг*
*твой позірк халодны,*
*на скрыжаванні дарог*
*ты — віцязь свабодны.*

*Свішча скавыш уначы,*
*лётаюць прывіды мрояў,*
*на развітанне — маўчы! —*
*плача шоўк маіх строяў...*

## Юрка ЯСЕНЬ



Юрка ЯСЕНЬ (Малашэвіч Мікалай Сымонавіч) нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Старыя Маргі на Уздзеншчыне. Скончыў Мінскі педуніверсітэт імя М. Танка. Працуе настаўнікам-філолагам у Лашанскай СШ.

### Лядзяш

*Я — лядзяш...*
*Ты бярэш мяне ў рукі —*
*І я адчуваю тваё цяпло...*

*Няспешна п'ю яго*
*ў радасці,*
*Растаю па кроплі ў табе,*
*Пакуль не скую цябе холадам...*

*Вось — і ўсё.*

## Зоя СІМАГАСЦІЦКАЯ



Зоя СІМАГАСЦІЦКАЯ нарадзілася ў 1981 годзе ў вёсцы Шашкі Стаўбцоўскага раёна. Скончыла СШ, Беларускі ліцэй мастацтваў у Мінску. Працуе музычным кіраўніком у дзіцячым садку г.п. Узда. Пераможца абласнога конкурсу казак. Піша вершы, прозу, музыку. Друкавалася ў мясцовым і рэспубліканскім друку.

•

*Люблю пісаць сакрэты я на шкле.*
*Здаецца вам: навошта так?*
*Але*
*Так жыць лягчэй...*
*Душа мая спявае.*
*Нямая споведзь з сэрца сум здымае...*

## Мікалай НЁМАНСКІ



Мікалай НЁМАНСКІ (Мікалай Стараверaў) нарадзіўся ў 1945 годзе ў вёсцы Магільна Уздзенскага раёна. Тут скончыў СШ. Служыў афіцэрам у СА, але нечаканая хвароба змусіла пакінуць службу і раней часу атрымліваць пенсію. Аднак хвароба не скарыла Мікалая Савельевіча духоўна. Ён піша вершы.

### Дапаможам Беларусі

*Гэй, паэты, адгукніся!*
*Ці вы, можа, ўжо звяліся?!*
*Беларусь па вушы гразне —*
*Дапаможам, бо — завязне...*
*Заняпала гаспадарка,*
*Зрэдку ў сподку ляжыць скварка,*
*З бульбай век свой дажываем,*
*Боты драныя цягаем...*
*Вас прашу, сябры-паэты,*
*Напішыце пра ўсё гэта,*
*Пра жыццё сваё — праўдзіва,*
*Ды пра рынкавае "дзіва"...*
*Глянь — чыноўнік, страхам скуты,*
*Трызніць пра свае пакуты,*
*"Выбівае" зноў мандаты,*
*Каб улезці ў дэпутаты...*
*Я дабра усім вам зычу,*
*Аб'яднацца ў гурт вас клічу.*
*Беларусь па вушы гразне.*
*Дапаможам, бо — завязне.*

## Наталля ВАЙЦЯХОВІЧ



Наталля ВАЙЦЯХОВІЧ нарадзілася ў 1938 годзе ў вёсцы Глінкі Уздзенскага раёна. Скончыла матэматычны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай. Цяпер — на пенсіі. Друкавалася ў "Настаўніцкай газеце", "Белаорусской ниве", "Мінскай праўдзе".

•

*Свечка жыцця дагарае...*
*Не дагарай, пачакай!*
*Замест паднебнага раю*
*Ў пекле зямным затрымай.*

*Тут, сярод гэтага пекла,*
*Ёсць свой маленечкі рай —*
*Там, дзе мне ўтульна і светла...*
*Свечка жыцця, не згарай.*

# Амазонка з гнязда Алелькавічаў

ЗІМА СНЕЖНАЯ — рэдка надараецца такая, а маразы — таксама падобных даўно не было ў тутэйшых мясцінах. Асабліва моц і лютасць іх адчувальныя пад вечар, калі маўклівай самотай напаўняецца наваколле, сціхаюць людскія галасы, і ўсё жывое, натаміўшыся за дзень, рыхтуецца да спачыну. Тады паступова і наплывае гэтая дзіўная цішыня, ад якой, калі выйдзеш на двор, становіцца ажно неяк звонка ў вушах. Пастаіш моўчкі, пакуль мароз не забраўся пад апратку, услухаешся ў гэтую загадкавую і такую прыцягальную маўклівасць, і чуеш, як ад лёгкага, ледзь чуйнага павеву ветрыку крэкчуць, скардзячыся на свой няўдзячны лёс, што змусіў іх пераносіць такую халадэчу, дрэвы ды патрэсквае месцамі магутная сцяна з векавых брусоў, якая акружае замак.

Не здаецца мароз і раніцой. Сонца ўжо і высока ўзнялося на небе, паспела зверху акінуць пільным позіркам зямлю — і не толькі замак, а і прадмесці Трайчаны і Востраў, але яго промні, як ні стараюцца, не могуць прынесці хоць крыху цяпла — ні людзям, ні дрэвам, ні пабудовам. Услухаешся — гэткае ж, як і на змярканні, пакрэктванне дрэў, патрэскванне бярвенняў у сцяне.

Настасся Іванаўна ў такую сцюдзёную пару, калі няма на гэта асаблівай патрэбы, стараецца не выхлдзіць з княжацкіх харомаў. Але сым яе, юны князь Юрый, хоць ужо і трынаццаць гадоў яму споўнілася, часам паводзіць сябе зусім па-дзіцячы. Ніяк не ўтрымаеш у палацы, любіць бавіць час на двары. І каб жа толькі ў цёплае надвор'е ды яшчэ днём... Дзе там! Нават такія моцныя маразы яму не перашкода. Наадварот, часам яшчэ болей цягне яго на свежае паветра. І не толькі, каб вакол харомаў прагуляцца. Хочацца Юрыю пайсці на пад'ёмны мост, перакінуты праз ручай Бычок. Была б воля — і ў тыя ж Трайчаны пакрочыў бы, ці на Востраў. Але ж ці надвячоркам спяшацца туды! Іншая справа днём. І асабліва вясной ці ўлетку, калі сонца доўга не заходзіць. Тады юнага князя часта можна ўбачыць сярод гараджан. Не цураецца ён простага люду, а многім гэта і падабаецца.

Заўважыўшы Юрыя, людзі нізка, ці не да самай зямлі, кланяюцца яму. Не толькі таму, што гэтак прынята, а і з-за павагі. А пройдзе міма, так і перашэптваюцца між сабой:

— Увесь у бацьку... Няйначай князь Сямён!

— Ды не кажы, — пачуецца пярэчанне. — Хіба княгіня Настасся не такая добрая, уважлівая?

Цяпер Юрый, крыху прагуляўшыся — паспеў схадзіць і да моста, які быў узняты на ноч, перакінуўся словамі з вартавымі, — паспяшаўся ў палац. Як ні храбрыўся, а хутка адчуў, што зусім змёрз. Каб сагрэцца, давялося ледзь не бегчы.

Княгіня бавіла вольны час ля вялікага каміна, у якім агонь жадліва паядаў тоўстыя бярозавыя паленні. Водбліскі полымя выхоплівалі дарагое ўбранства пакоя, абразы на сценах. Але хоць агонь палаў не першую гадзіну, Настасся Іванаўна адчувала сябе зябка. Як і тады, калі толькі села ля каміна, а дровы яшчэ пачыналі разгарацца, працягвала туліцца ў мядзведжую шкуру, накінутую на плечы.

Падумала — хоць бы не захварэць. Але адразу адагнала трывожныя думкі. Відаць, ужо ніякая хвароба не возьме, калі ўдалося перажыць такую страшную эпідэмію. І трэба ж было надарыцца, што прыход яе супаў з чарговым набегам татар. Сотні людзей памерлі. І князь Сямён не ўбярогся.

У сярэдзіне жніўня 1505 года, калі завітаў да сцен Слуцка хан Баты-Гірэй, давялося адбіць не адзін іх наступ. Тады нахабныя заваёўнікі свайго так і не дамагліся. Чаго толькі яны ні рабілі! І падкопы, каб узарваць сцены, і кідалі палаючую смалу. А аблогу ўрэшце вымушаны былі зняць і пайсці з нічым. Радаваўся князь чарговай перамозе над даўнімі ворагамі. На радасці пір арганізаваў.

Хто б тады мог падумаць, што жыць яму заставалася некалькі месяцаў. Здавалася, аніякага зносу не будзе. А эпідэмія забрала. Ні самыя дарагія заморскія лекі, якія трымалі ў палацы на ўсялякі выпадак, ні знахары, ні пастаянныя маленні — нішто не дапамагло. Згас Сямён, як свечка на адкрытым ветры. А апошнія словы яго — калі перад канчынай вярнулася на нейкае імгненне свядомасць, а то ўсё трызніў — былі:

— Беражы, Настасся, сына. І горад, Настасся, беражы...

Пры ўпамінанні пра князя Сямёна Настасся адчула, як набрынялі слязьмі вочы. І расплакалася б, калі б у пакоі не ўварваўся Юрый. Увесь з марозу — так і дыхнула ад яго сіверам, а яшчэ той здаровай бадзёрасцю, што нязменна спадарожнічае маладосці.

Юрый, хоць і з'явіўся, як заўсёды, узрушаны, паспеў заўважыць, што маці холадна, а яе вочы напоўніліся слязьмі.

— Што гэта ты, мама, зусім... — не дагаварыў, бо не змог знайсці патрэбныя словы, якія маглі б засведчыць і яго чуласць да самага дарагога чалавека, і жаданне ва ўсім разабрацца і ўсё зразумець, але разам з тым і не сталі б залішне настырнымі. Як дарослы, усё разумеў. Падышоў, абняў маці. Моцна-моцна, як у маленстве. І гэтксама пяшчотна.

Княгіня Настасся сама пра ўсё сказала:

— Бацьку твайго я, сынку, успомніла... Князя Сямёна...

Гэтыя словы балюча кранулі патаемныя струны душы абаіх. І нечакана настала тое збліжэнне маці і сына, што засведчыла аб іх еднасці.

Непаразумення, праўда, між імі і раней не існавала. Юрый не цураўся маці, ды і Настасся Іванаўна хіба што зрэдку не магла з ім знайсці агульную мову. Але, як гэта часта бывае, усё ж не хапала хвілін, каб пагаварыць сам-насам з тым даверам, які наступае толькі тады, калі адначасова з'яўляецца аднолькавая неабходнасць у шчырасці і адкрытасці з двух бакоў.

Цяпер падобны момант узнік. І маці з сынам прасядзелі ці не да самай поўначы, нетаропка згадваючы не толькі перажытае, а і кідаючы позірк у падзеі куды больш даўнія, сведкамі якіх не магла быць і сама Настасся Іванаўна, а тым больш Юрый. Але ўсё гэта была часцінка іх агульнага лёсу, супольнай біяграфіі і ў той ці іншай ступені тычылася самога гнязда іхняга — роду Алелькавічаў, у які ўвайшла і яна, Настасся, дачка князя Івана Мсціслаўскага, калі стала жонкай Сямёна, тады яшчэ капыльска-слуцкага ўладара...

...Род Алелькавічаў (другая назва Алелькаў) — адзін з самых слынных княжацкіх родаў на беларускай зямлі (дарэчы, крыху пазней, у тым жа XVI стагоддзі, іх пачалі называць яшчэ і Слуцкімі). Менавіта гэты род карыстаўся гербам "Пагоня", а пачатак свой узяў ад сына Гедыміна Альгерда, Вялікага князя літоўскага, які правіў з 1345 па 1377 год. Сын жа Альгерда Уладзімір атрымаў у 1362 годзе ў валоданне Кіеўскае княства.

Аднак, калі на вялікакняжацкі прастол быў абраны Вітаўт, Уладзімір Альгердавіч, як засведчылі летапісы: "не всхоте покоры учинити и челом ударити". Гэта Вітаўту не спадабалася, і ён у 1395 годзе "выведе его (Уладзіміра. — **А. М.**) из Киева и даст ему Копыл".

Заснавальнікам роду Алелькавічаў стаў сын Уладзіміра Аляксандр, якога, па некаторых звестках, звалі і Алелькам. Алелька спачатку называўся князем Капыльскім. Ён быў не толькі адважным воінам, а і вопытным дыпламатам. У 1422 годзе падпісаў Мельнскі дагавор Тэўтонскім ордэнам, Алельку з-за прызнання яго заслуг перад ВКЛ пасля смерці Вітаўта нават вылучалі на вялікакняжацкі прастол. Але дыпламатыя, як вядома, справа далікатная. Магчымы і пралікі, якія загадзя не прадугледзіш. Так атрымалася і з Алелькам. Ён спачатку падтрымліваў Жыгімонта, але, палічыўшы, што стаць вялікім князем больш шанцаў у Свідрыгайлы, нечакана перайшоў на бок апошняга.

Пасля перамогі Жыгімонт Кейстутавіч не змог дараваць Алельку здраду. У 1432 годзе забраў яго княства, а самога пасадзіў у астрог. Вызваліў Алельку ў 1440 годзе вялікі князь Казімір IV. А яшчэ праз тры гады вярнуў яму капыльска-слуцкае княства і спадчынны ўдзел яго бацькі — Кіеў.

Пасля смерці Алелькі засталіся два сыны — Сямён і Міхаіл. Малодшы Міхаіл і стаў уладаром княства. Адначасова ў 1471 годзе ён быў вялікакняжацкім намеснікам у Вялікім Ноўгарадзе. Пасля смерці брата Міхаіл хацеў вярнуць сабе Кіеў. Аднак яго захады нічога не далі. Тады ён уступіў у змову супраць вялікага князя, жадаючы аддзяліць ад ВКЛ Кіеў з усходнімі беларускімі і ўкраінскімі землямі і пасля аддаць іх пад апеку вялікага маскоўскага князя.

Змова пацярпела паражэнне, і Казімір IV пакараў удзельнікаў яе смерцю.

Навісла небяспека і над уладаннямі Міхаіла. Але яго ўдава Ганна Мсціслаўская дамаглася, каб яны не былі канфіскаваны і перайшлі сыну Міхаіла Сямёну. Яму на той час было прыкладна дзесяць гадоў.

Калі юнак падрос, паўстала пытанне аб жаніцьбе. Тады маці і ўспомніла пра сваіх пляменніц Ульяну і Настассю, бацька якіх князь Іван Мсціслаўскі памёр у 1483 годзе. Выбар паў на прыгажуню Настассю.

Сямён Міхайлавіч стаў першым слуцкім князем — Алелькавічы, маці з сынам, пераехалі ў Слуцк у 1481 годзе, а датуль жылі ў Капылі. А паколькі Слуцк стаў цэнтрам княства, ён пачаў паскорана развівацца. У 1492 годзе, калі ў Сямёна і Настассі нарадзіўся першынец, якому далі імя Юрый, гэта быў ужо вядомы горад на беларускіх землях. І не ў апошнюю чаргу з-за сваёй непрыступнасці. Нездарма мясцовы замак называлі "бастыёнам Літвы".



*Такой уяўляе Настассю Слуцкую Арлен Кашкурэвіч.*

Паводле пісьмовых крыніц, слуцкі замак быў пабудаваны ў пачатку XV стагоддзя. Прынамсі, першае ўпамінанне ў летапісах адносіцца да 1409 года. Магутныя вежы ўзвышаліся не толькі над горадам, а і над усім наваколлем. Асабліва далёка была відаць тая, што мясцілася над брамаю. На ёй быў умацаваны вялікі гадзіннік. А вянчаў вежу медны пазалочаны шар з выявай арла.

У сонечныя дні за некалькі вёрст да горада паўставала дзіўнае відовішча. Пад промнямі пазалота зіхацела, і здавалася, што арол гатовы ўзмахнуць крыламі, каб сягнуць за аблокі.

Непрыступнасць гэтага замка, які называўся Верхнім, узмацнялі не толькі пад'ёмны мост і магутная драўляная сцяна з вежамі. У час асады вялікая надзея ўскладалася і на замкавую браму, якая мела чатыры ярусы бою. На кожным з іх размяшчаліся гарматы. Дарэчы, ядры для іх рабілі тут жа, у замку. Існавала спецыяльная майстэрня, у якой каменячосы старанна шліфавалі кавалкі граніту, каб атрымалася тое, што прыдатна для стральбы. Калі адначасова грымелі залпы з усіх чатырох пляцовак, захопнікам даводзілася нялёгка.

А што значыць непрыступнасць Слуцка з яго замкам, татары змаглі ўпэўніцца ў 1502 годзе. Яны падышлі да яго сцен з больш як шасцітысячным войскам улетку. Разлічвалі на даволі хуткую перамогу. І таму, што на той час фартуна часта спадарожнічала ім, а яшчэ меркавалі, паколькі князь Сямён не мае належнага баявога вопыту, абаронцы горада не змогуць належным чынам арганізавацца. І памыліліся...

Татары не толькі не ўзялі горад, а неўзабаве былі разбіты на рацэ Уша, калі, пацярпеўшы паражэнне пад Слуцкам, пераправіліся праз Прыпяць і пачалі рабаваць насельніцтва. Сямён нагнаў іх са сваім атрадам.

Праз некалькі тыдняў заваёўнікі, сабраўшыся з сіламі, вырашылі зрабіць на непакорны горад чарговы наступ. Дата яго дакладна зафіксавана пісьмовымі крыніцамі. 30 жніўня 1502 года да горада рушыў Баты-Гірэй. Навучаныя горкім вопытам, татары дзейнічалі не толькі больш рашуча, а і лепш падрыхтаваліся да штурму. І свайго дамагліся. Хоць і з вялікімі стратамі, але апынуліся ў горадзе. Абаронцы, якія засталіся ў жывых, схаваліся за сценамі замка. І сцены не падвялі, хоць давялося адбіць не адну атаку. Нічога не дала татарам і спроба зрабіць пад сцены падкоп.

У шэрагу абаронцаў знаходзілася і княгіня Настасся. Сямён спачатку хацеў адгаварыць яе. Маўляў, не жаночая гэта справа, ды, убачыўшы рашучасць жонкі, прамаўчаў. Збройнікі выкавалі княгіні кальчугу і меч.

Татары, не ўзяўшы замак, кінуліся рабаваць землі княства. Пацярпелі навакольныя вёскі. Былі зруйнаваны таксама Клецк, Койданава, Нясвіж. Толькі пасля гэтага заваёўнікі вярнуліся з багатай здабычай у Крым.

Слуцакі пад кіраўніцтвм князя Сямёна пачалі аднаўляць разбураныя будынкі, умацоўваць сцены замка, асабліва ў тых мясцінах, дзе з'явіліся трэшчыны і праломы. Ні для каго сумнення не заставалася: татары з паражэннем не зміracца. Адпачнуць у Крыме, лепш узброяцца, а пацяплее — зноў збяруцца ў разбойную дарогу.

Так і атрымалася. Толькі настала лета 1503 года, а ганцы прынеслі ў Слуцк непрыемную вестку: татары спалілі Нясвіж, Наваградак, Клецк, наступаюць на Мінск і Лагойск. Значыць, у хуткім часе які-небудзь іх атрад апынецца і ля Слуцка.

Ды нічога, супакоіў сябе князь Сямён, знячэўку яны нас не заспеюць. Падрыхтаваліся для сустрэчы належным чынам.

Тым не менш атрымалася не так, як хацелася. Татары падыходзілі да Слуцка, калі князь знаходзіўся ў ад'ездзе. Канечне, у горадзе заставаліся баяры, сярод якіх было нямала мужных, смелых вояў. Пры неабходнасці яны маглі б узяць кіраўніцтва абаронай у свае рукі.

Апошняе слова заставалася за Настассяй Іванаўнай. І тут адбылося тое, у што многія спачатку не хацелі верыць. Яна рашуча заявіла, што камандаванне бярэ на сябе. І зусім не абараняцца збіраецца. А часу заставалася мала, заваёўнікі вось-вось падыдуць да сцен.

Княгіня загадала прынесці ёй даспехі, меч, прывесці баявога каня... Атрады воінаў к гэтаму часу ўжо былі пастроены і чакалі апошняга загаду. І ён прагучаў:

— За мной! — гучна крыкнула Настасся Іванаўна і першай рушыла па пад'ёмным мосце, які паспелі апусціць да замкавай брамы.

Расчыніліся вялізныя вароты.

Татары, якія знаходзіліся ўжо блізка ад горада, не адразу ачомаліся. Яны ўсё чакалі: асобных атрадаў, якія выйдуць ім насустрач, залпаў гармат, што грымнуць пры набліжэнні да сцен; лучнікаў, якія з вежаў пашлюць у іх бок стрэлы. Але гэтага...

Пачулася магутнае "ўра!" і дзесяткі коннікаў галопам панесліся ім насустрач. І што гэта — наперадзе жанчына?!

У падобнае не хацелася верыць, але гэта было так.

Не паспелі слуцакі наблізіцца да татар, як добрую справу зрабілі ядры, дасланыя з пляцовак вежы. Уздыбіліся татарскія коні, некаторыя з паламанымі нагамі пачалі падаць, падмінаючы пад сябе вершнікаў. Не змаглі ворагі як след ачомацца, а ў іх пасыпаўся град стрэлаў. Атраду татар, які налічваў да трох тысяч, нічога не заставалася, як пачаць адступаць.

Настасся са сваімі воінамі праследавала іх некалькі міль. А праз некаторы час за Прыпяццю, ля Давыд-Гарадка, іх дагнаў з войскам і разбіў князь Сямён.

Пасля такой няўдачы татары не паказваліся ля сцен Слуцка два гады. Ды і на тэрыторыю княства не асмельваліся завітваць. Толькі ў жніўні 1505 года паўтарылі чарговы набег...

— ...Загаварыліся мы з табой, сынок, — першай спахапілася Настасся Іванаўна. — Хутка поўнач.

— Нічога, мама, часу паспаць хопіць, — разважліва, як дарослы, адказаў Юрый.

— Цяпер, сынку, у мяне на аднаго цябе спадзяванне. Ты ж мужчына ў доме, а Аляксандра дзяўчынка, ды і маленькая яшчэ.

Настассю Іванаўну радавала, як Юрый уважліва ставіцца да сястрычкі і часам з замілаваннем, як не так даўно бацька, назірае за яе гульнямі.

Чарговае ўспамінанне князя Сямёна зноў адгукнулася ў душы болем. І каб болей не вярэдзіць памяць, сказала Юру: "Дабранач", і хуценька пайшла ў сваю спачывальню.

Назаўтра, нягледзячы, што лягла спаць позна, Настасся Іванаўна адчувала сябе свежа і бадзёра. Хацелася знайсці прычыну такому дзіўнаму стану, але чамусьці адказ не прыходзіў.

Як жа здзівілася, калі ўбачыла, што і Юрый прачнуўся ўжо. І таксама выглядаў надзіва ўзрушана-радасным, нібы адбыліся ў ім нейкія важныя, няхай пакуль і незразумелыя, змены. А сын, павітаўшыся, не чакаючы сняданку, заспяшаўся на двор, чаго раней за ім не заўважалася.

— Куды гэта ты? — запытала здзіўленая.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Успомнім гісторыю краязнаўства

**75 гадоў назад, у далёкім 1924 годзе, было створана Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства, у якім працавала некалькі секцый: яўрэйская эканамічная, прыродазнаўчая, мовы і побыту, мастацкая і культурна-гістарычная. Вялася актыўная праца па складанні бібліяграфічнага слоўніка дзеячаў Віцебшчыны.**

**Першым старшынёй праўлення таварыства быў краязнаўца Мікалай Каспяровіч. Арганізацыя мела аддзяленні ў Бешанковічах, Гарадку, Лёзне, Сянно, Чашніках. Было выдадзена больш за 10 кніг, у тым ліку зборнік "Віцебшчына" (т. 1—2, 1925—28).**

**Дарэчы, з 1924 года М. Каспяровіч з'яўляўся інспектарам Віцебскага акруговага аддзела народнай асветы. Мікалай Іванавіч асабліва актыўную грамадскую, краязнаўчую і літаратурную дзейнасць разгарнуў менавіта ў Віцебску. Выступіў таксама ініцыятарам стварэння Віцебскай філіі "Маладняка" і стаў яе кіраўніком.**

**29 чэрвеня 1930 года разам з групай вядомых пісьменнікаў ён быў арыштаваны, абвінавачаны ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі і высланы на 5 год за межы Беларусі.**

**28 жніўня 1937 года быў паўторна арыштаваны і асуджаны да расстрэлу. Датай яго смерці лічыцца 17 снежня 1937 г.**

**Мікалай Каспяровіч — аўтар "Віцебскага краёвага слоўніка" (1927), прац "Віцебск як мастацкі асяродак", "Віцебская архітэктура ў гістарычнай перспектыве".**

**Канстанцін КАРНЯЛЮК**

## Да юбілею Мацея Бурачка

**Найбольш поўнае выданне Багушэвічавых твораў здзейсніла выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1991 годзе. У гэтым жа годзе яно перавыдала факсімільна і "Dudku Bielaruskuj". Абедзве кніжкі даўно разышліся. І вось нечаканка і для чытачоў, і для ўкладальнікаў кнігі: "Мастацкая літаратура" ў канцы мінулага года перавыдала томік Багушэвічаых твораў. Гэта вельмі прыкметная падзея. Здавалася, яны даўно сталіся гісторыяй літаратуры. Там не менш кніжкі Ф. Багушэвіча не залежваюцца на прылаўках. У чым жа сакрэт такой папулярнасці Багушэвічавых твораў? Пэўна, у аўтарытэце постаці самога аўтара. А згаданы аўтарытэт трымаецца на грамадзянскай мужнасці творцы, яго крыштальнай чысціні. Гэтая мужнасць не забываецца чытачамі і праз стагоддзі. Выхад новага выдання твораў Багушэвіча — добры падарунак да юбілею песняра: у наступным годзе мы адзначым 160-ую гадавіну з часу яго народзінаў (21 сакавіка) і сотую гадавіну (28(15) красавіка) з дня яго смерці.**

**Уладзімір СОДАЛЬ**

## Літаратуразнаўца, аўтар падручнікаў

**80 гадоў таму нарадзіўся вядомы крытык і літаратуразнаўца Рыгор Шкраба (памёр 25 чэрвеня 1997 года). Рыгор Васільевіч у 1946—1957 гадах быў літсупрацоўнікам, выконваючым абавязкі адказнага сакратара, загадчыкам аддзела літаратуры газеты "Літаратура і мастацтва", а ў 1957 годзе свой лёс звязаў з часопісам "Полымя", калі стаў літсупрацоўнікам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, а потым на працягу 20 гадоў (да выхаду на пенсію ў 1979-м) з'яўляўся рэдактарам гэтага аддзела. З першымі рэцэнзіямі і артыкуламі выступіў у 1940 годзе, стала працаваў у галіне крытыкі і літаратуразнаўства з 1945-га. Выдаў кнігі "Сіла слова", "Характар, стыль, дэталь", "Літаратура і мова", "Энергія слова" (за яе ў 1989 годзе быў удастоены Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа) і іншыя. Шмат зрабіў Р. Шкраба дзеля паляпшэння выкладання беларускай літаратуры ў школе. Напісаны ім падручнік "Беларуская савецкая літаратура" для 10 класа вытрымаў 14 выданняў, а "Беларуская савецкая літаратура" для 11 класа — 12 выданняў.**

УРАЖАННЕ

# А публіка чакае свята...

Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі "Яўгеній Анегін" прыцягнуў увагу публікі цудоўнай музыкай Чайкоўскага, магчымасцю зноў перажыць падзеі славутага рамана ў вершах Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, 200-годдзе з дня нараджэння якога сёлета адзначаецца. І, вядома ж, цікавілі гледачоў выканаўцы.

Вакальна і сцэнічна непераўзыдзеным быў Яўгеній Анегін ва ўвасабленні Уладзіміра Пятрова. Дарэчы, гэтую партыю артыст выконваў яшчэ ў студэнцкія гады, потым спяваў Анегіна на сцэне Омскага музычнага тэатра, разам з салістамі Вялікага тэатра Расіі, удзельнічаў у паказе гэтай оперы ў Сыктыўкары, а з калектывам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі выконваў сваю любімую партыю на сцэне амфітэатра ў Ізраілі. І вось — чарговае і вельмі паспяховае выступленне перад мінчукамі. Паступова на працягу спектакля мяняецца настрой, псіхалагічны вобраз героя. Спявак еўрапейскага ўзроўню, Уладзімір Пятроў гэтым разам, на мой погляд, быў бліскучым Анегіным, адным з лепшых, якіх мне даводзілася слухаць.

Па-свойму прывабны быў Ленскі ў выкананні Марата Грыгорчыка. Славутая арыя "Куды, куды" прагучала ў яго выкананні ўсхвалявана, пяшчотна. Запамінальныя сцэнічныя і вакальныя вобразы стварылі салісты тэатра Нагіма Галеева (Ларына, памешчыца), Таццяна Варапай (Вольга), Марыя Аксенцава (Няня).

Асобна скажу пра спевакоў-гастралёраў. Зразумела, што з'яўленне на афішы імёнаў новых салістаў, тым больш — з замежжа, інтрыгуе публіку, выклікае цікавасць і ў самім творчым калектыве.

У партыі Таццяны дэбютавала спявачка з Францыі Фрэдэрык Адэд — пераможца еўрапейскага конкурсу імя Равеля і Гранадаса ў Марселі. Таццяна — яе першая вялікая роля. На жаль, прыгожы, але невялікі голас спявачкі не заўсёды быў чутны. Можа, таму, што дэбют — гэта ж заўсёды хваляванне, якое часам замінае выкананню. На думку вядомага беларускага канцэртмайстра Георгія Каранта, які працаваў з Фрэдэрык Адэд, яе голас трошкі ўмацаваўся, але каб не фарсіраваць гук, яна часам проста спявала недастаткова моцна. Некалькі месяцаў спявачка была на стажыроўцы ў беларускім оперным, выходзіла на сцэну ў партыях Мікаэлы ("Кармэн"), Прылепы ("Пікавая дама"). Партыя Таццяны на рускай мове ў оперы "Яўгеній Анегін" — гэта не толькі дэбют французскай спявачкі, але і яе асабісты поспех у першай вялікай опернай ролі. Але ўсё ж прывабнага вобраза летуценнай рускай дзяўчыны ў дэбютанткі з Францыі, на жаль, не атрымалася. Фрэдэрык Адэд, на мой погляд, спявачка камерная.

З вялікай нецярплівасцю чакала публіка выхаду выканаўцы партыі Грэміна — настаўніка Фрэдэрык Адэд, пераможцы Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага 1978 года, вучня славутага Яўгена Несцярэнкі, былога саліста Вялікага тэатра Расіі, а цяпер жыхара Францыі Мікіты Сторажава. Аднак надзеі на эстэтычнае ўзрушэнне не апраўдаліся: спявак удзельнічаў у спектаклі, але ён быў не зусім здаровы. Таму застаецца чакаць новай суст-

# Амазонка з гнязда Алелькавічаў

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

— А мне, мама, падабаецца зімой... Калі марозна, свежа...

Усміхнуўся, гледзячы ёй у самыя вочы:

— І табе ж, мама, зімы падабаюцца?

— Падабаюцца...

Хацела дадаць: "Лепш бы не падабаліся", але вырашыла не засмучаць Юрыя. Хай радуецца, цешыцца. Хопіць яму яшчэ клопатаў, узваляцца абавязкі, турботы і на яго плечы, як і на яе ўзваліліся. Пры жывым мужы іх, канечне, таксама хапала, але ж пры ім была, як за сцяной. А цяпер...

Лепш бы яна гэтых зім не любіла, бо чакае іх з нецярпеннем не таму, што асабліва падабаецца гэтая пара года... Наадварот, яе куды больш вабяць вясна, лета. Ды і восень з яе шчодрымі дарамі.

А зіма? Зіму таму і чакае з нецярпеннем, што з прыходам яе можна не баяцца чарговага набегу заваёўнікаў. Татары за звычай для сябе ўзялі адседжвацца ў гэты час у сваім цёплым Крыме, каб потым, сабраўшыся з сіламі, зноў рушыць у паход. Не можа таго быць, каб і наступным летам не зрабілі гэтага. І тое, што не ўзялі Слуцк, не дае ім спакою. Ды і, відаць, даведаліся ўжо аб смерці князя Сямёна.

У змрочных прадчуваннях княгіня Настасся не памылілася. Не прынесла лета 1506 года ёй спакою. Не паспела зняць жалобу па памерлым мужу, як давялося браць у рукі зброю.

Ганцы загадзя папярэдзілі, што да горада не адзін атрад, не два рухаюцца, а набліжаецца цэлае войска, у якім прыкладна 20 тысяч чалавек. Баты-Гірэй аб'яднаўся са сваім братам, перакопскім царэвічам Бурнашом.

Каб выступаць супраць такой сілы адкрыта, у полі, і гаворкі не магло ісці. Заставалася абарона. Аб гэтым княгіня і паведаміла баярам. Тыя і самі не сумняваліся, што неабходна дзейнічаць так. Але аб сваім рашэнні не паведамлялі, чакалі, што скажа Настасся Іванаўна. Калі ж пачулі з яе вуснаў слова: "Абараняцца", да якога былоададзена кароткае, але цвёрдае: "Да апошняга!", узрадаваліся, наколькі цвяроза разважае княгіня. Не знайшлося ніводнага, хто б засумняваўся ў тым, што ў абароне — адзінае ўратаванне. А тут ужо спадзяванне на Бога, магутныя сцены і, канечне ж, на мужнасць і гераізм кожнага.

Хутка Настасся Іванаўна пераканалася, якую цяжкую ношу ўзяла на свае плечы. Тое, што адбывалася цяпер, ні ў якое параўнанне не йшло з колішнім выступленнем супраць трохтысячнага татарскага атрада. Тады становішча ў многім выратавалі нечаканасць прынятага рашэння, рашучасць у наступленні. Гэтым жа разам заваёўнікі загадзя падрыхтаваліся да працяглай аблогі, на выпадак, калі горад не ўдасца ўзяць адразу. Прыйшлі не толькі добра ўзброенымі, а і з рознымі прыстасаваннямі, якія б дапамаглі прабіць сцены, ці ўзарваць іх, зрабіўшы падкоп.

Разумела Настасся, што становішча можа ўратаваць толькі вытрымка і ўпэўненасць. У гэтыя цяжкія дні яе, апранутую ў даспехі, з нязменным мячом у руцэ, часта можна было ўбачыць сярод простых вояў. Падбадзёрвала, як магла. А тыя, бачачы яе такой смелай, і самі не падалі духам.

Давялося адбіць некалькі штурмаў. У рэшце рэшт татары, не змогшы ўзяць "бастыён Літвы", адышлі. Як даведалася ў хуткім часе, свой галоўны лагер яны размясцілі пад Клецкам, а тактыку баявых дзеянняў змянілі. Зноў перайшлі да нападу невялікімі, але добра ўзброенымі і мабільнымі атрадамі.

Адзін з іх і апынуўся ў ваколіцах Капыля. Але і гэты паход татараў не заспеў Настассю Іванаўну знячэўку. Дзейнічала яна па ўсіх правілах баявога майстэрства, належным чынам паставіўшы разведку. Аб набліжэнні непрыяцеля да Капыля паведамленне прыйшло своечасова. Ад Слуцка ж туды, як вядома, не так і далёка.

Хацела сама ўзначаліць атрад, ды вырашыла, што ўсё ж лепей заставацца на месцы. Можа ж стацца і так, што і пад Слуцкам давядзецца сустрэцца з непрыяцелем. Паслала ў Капыль вопытных вояў з баярамі. Яны не падвялі.

Знакаміты Мацей Стрыйкоўскі ў сваёй вядомай "Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсяе Русі" так занатаваў гэтыя ўдалыя баявыя дзеянні слуцакоў:

***Настасся, княгіня Слуцкая, сваіх баяр***
***Паслала перахапіць палахлівых татар.***
***Шмат іх пад Капылём было забіта***
***І горлам ля Пятровіч заплаціла мыта.***

Але пад Пятровічамі гэта адбылося неўзабаве пасля вядомай Клецкай бітвы, калі 6 жніўня 1506 года на рацэ Лані пад Клецкам татараў разграміў князь Міхаіл Глінскі. Тых жа, хто ў жорсткай сечы ўратаваўся, гнаў са сваім войскам да ракі Цапры. Заваёўнікі панеслі вялікія страты — 27 тысяч чалавек з іх загінула ці патанула, а з татарскай нявол было вызвалена 40 тысяч чалавек, узятых раней у палон. Праўда, асобным, малалікім атрадам татар усё ж удалося ўратавацца і яны блукалі па Беларусі, а некаторыя апынуліся пад Капылём і Пятровічамі, дзе іх і пераняла са сваімі атрадамі Настасся Іванаўна. Тады яна і падумаць не магла, што праз якія два гады давядзецца адбіваць наступ войска Глінскага.

Маршалак дворны ВКЛ Глінскі з'яўляўся адным з найбагацейшых і ўплывовых людзей Княства. Калі цяжка захварэў вялікі князь Аляксандр, ён узначаліў групоўку феадалаў, якая выступала за незалежнасць дзяржавы і за тое, каб пасля смерці Аляксандра ўлада была перададзена яго брату Жыгімонту. Як вядома, той хутка і заняў прастол. Па логіцы Глінскі пасля гэтага павінен быў карыстацца асаблівай пашанай у яго. Аднак атрымалася інакш.

Жыгімонт І Стары вырашыў стаць незалежным ад якіх бы там ні было груповак. Акрамя таго, ён баяўся, што далейшае збліжэнне з Глінскім не пойдзе на карысць — усё ж пасля разгрому татараў аўтарытэт Глінскага вельмі ўзрос. Пачалося па сутнасці адцясненне смелага князя на другі план, з чым той, безумоўна, змірыцца не мог і не хацеў. Але супраць Глінскага адкрыта выступіў і яго асабісты вораг ваявода троцкі Ян Забярэзінскі.

Наколькі было вядома Глінскаму, Забярэзінскі не прызнаваў і Жыгімонта, нават рыхтаваў яго забойства. Глінскі, каб увайсці ў большы давер, папярэдзіў аб гэтым вялікага князя, ды той пакінуў яго паведамленне без увагі. Тады Глінскі 2 лютага 1508 года напаў на дом Забярэзінскага, што знаходзіўся каля Гародні, і забіў свайго праціўніка. А ў хуткім часе каля дзвюх тысяч чалавек на чале з Глінскім узнялі супраць вялікага князя мяцеж.

На выступленне супраць законнай улады Глінскага падштурхнуў крымскі хан Менглі-Гірэй. Падтрымліваў героя клецкай бітвы і вялікі князь маскоўскі Васіль III, які марыў аб заваёве беларускіх земляў.

Наўрад ці магла ведаць Настасся Іванаўна пра ўсе перыпетыі гэтай барацьбы, што перарасла ва ўзброенае выступленне. А Глінскі даўно кінуў позірк на слуцкую амазонку, адвагай якой захапляўся. Ды і сваёй прыгажосцю падабалася яна яму. Але, калі быў жывы князь Сямён Алелькавіч, у яго і ў думках не было, каб паспрабаваць дамагчыся ўвагі гордай княгіні.

Калі ж Сямён памёр, Глінскі ўзрадаваўся. І не толькі таму, што не стала моцнага праціўніка. Праўда, заняты сваімі пастаяннымі клопатамі, а яны найчасцей былі звязаны з баявымі паходамі і сутычкамі, Глінскі на некаторы час забыў пра Настассю. А ўзняў мяцеж, успомніў пра прыгожую княгіню і вырашыў пасватацца.

Цяжка сказаць, наколькі ў такім рашэнні ён кіраваўся пачуццямі. Відаць, усё ж на першым месцы меў далёка ідучыя планы. Не мог не ведаць, што Алелькавічы некалі з'яўляліся кіеўскімі князямі. Ажаніўшыся на Настассі, Глінскі мог законна прэтэндаваць на кіеўскі пасад, а заняўшы яго, можна было б аднавіць Кіеўскае княства, падуладнае Крымскаму ханству. Ды і сам "бастыён Літвы" не лішне займець. На выпадак няўдачы яго можна выкарыстаць у якасці непрыступнай абароны.

Упэўнены ў сабе, Глінскі разлічваў на поспех, хоць на ўсякі выпадак трымаў і запасны варыянт. Калі Настасся ўсё ж адкажа адмовай, вырашыў узяць Слуцк, а значыць і ўладальніцу горада і княства сілай.

Настасся сватоў доўга не затрымала, адразу заявіла рашучае: "Не!".

Чаму так зрабіла, адназначна сказаць нельга. Чужая душа — поцемкі. Тым больш жаночая. Тым не менш, гісторыкі па сённяшні дзень шукаюць адказ. І прыходзяць да некалькіх высноў.

Праўдзівей, што Настасся, горача любячы Сямёна, хацела назаўсёды захаваць яму вернасць. Магчыма, Глінскі не падабаўся ёй як мужчына. Верагодна, не жадаючы выходзіць за яго замуж, Настасся Іванаўна клапацілася і пра лёс сына. У выпадку жаніцьбы ў яе ад Глінскага нарадзілася б дзіця (а то і некалькі дзяцей), а ў выніку Юрый страчваў бы правы на слуцка-капыльскае княства.

Выказваецца яшчэ і такое меркаванне. Княгіня ненавідзела татар за іх пастаянны разбой, а Глінскі з'яўляўся нашчадкам хана Мамая, сын якога Мансур, калі войска заваёўнікаў было разгромлена на Куліковым полі, знайшоў прыстанішча ў Літве...

Глінскі не збіраўся разбірацца ў прычынах адмовы. Адчуваючы сябе абражаным, ён пайшоў браць Слуцак. У поспеху не сумняваўся. І чарговы раз памыліўся. Горад узяць з наступу не ўдалося. Нічога не дала і асада. Адступленне яшчэ больш закранула самалюбства Глінскага. Праз некаторы час ён паўтарыў наступ. І зноў безвынікова.

Мяцежны князь свой люты гнеў абрынуў на землі слуцка-капыльскага княства, пранёсшыся са сваімі атрадамі па іх нібы ўраган. Пасля падаўся разбойнічаць далей, дзе таксама нічога не шкадаваў. Наконт гэтага летапіс сведчыць: "В сие лето Глинский некто в Литве много зла починил... и Слуцка хоте взяти под Анастасиею княгинею Симеоново, но не може, только волость ея якоже Татаре поплени и Копыль, и Туров доста и Мозыр".

рэчы з ім, калі артыст будзе ў лепшай форме.

У аркестры пад кіраўніцтвам Вячаслава Чарнухі мякка, меладычна, эмацыянальна гралі скрыпкі, віяланчэлі, а вось гучанне медных не заўсёды адпавядала стылю, характару музыкі Пятра Ільіча Чайкоўскага. Дырыжор шмат увагі ўдзяліў таму, каб ансамблі спевакоў былі выкананы выразна. Вядома, што ён пастараўся, каб дэбютантка з Францыі вывучыла партыю Таццяны на мове арыгінала, фактычна амаль не ведаючы рускай мовы, каб падчас спектакля яна як мага менш хвалявалася і змагла вытрымаць фізічна сваё выступленне.

Уражанне ад спектакля псавалася тым, што выканаўцы часам былі безгустоўна апранутыя без уліку індывідуальных асаблівасцяў артыстаў. Некаторыя нават выходзілі на сцэну ў пакамечаным адзенні. Карыкатурна выглядаў ротны ў рыжым парыку і ў надта цесным касцюме, неэстэтычнымі падаваліся яго рухі.

І ўрэшце, вельмі шкада, што падчас опернай імпрэзы, якая сабрала шматлікую публіку, не заўсёды адчувалася павага да гледачоў. Гэта тым больш крыўдна, што колькасць беларускіх аматараў опернага мастацтва апошнім часам расце.

**Вера КРОЗ**

А было гэта ўлетку 1508 года. І гэтым жа летам Настасся са сваім атрадам непадалёку ад горада разбіла невялікі татарскі атрад — з тых, што ўцалелі пасля Клецкай бітвы.

Частыя напады заваёўнікаў прымусілі княгіню яшчэ больш умацаваць горад. На поўнач ад Верхняга замка быў пабудаваны Ніжні. Ён аддзяляўся ад першага абарончым ровам, запоўненым вадой. А сам замак таксама ўмацавалі — насыпалі валы, узвялі розныя драўляныя збудаванні. А на тэрыторыі яго з'явіліся тры палацы, для сцен якіх выкарысталі часаны брус.

Воды Случы і Бычка, паднятыя плацінамі, абмывалі два замкі адначасова.

Не толькі пра абарону сваіх земляў ад заваёўнікаў дбала Настасся. Клапацілася яна і аб эканамічным развіцці горада, працягваючы добрыя традыцыі, закладзеныя князем Сямёнам. Прынамсі, вядомасць набыў Слуцкі Свята-Троіцкі мужчынскі манастыр. Яшчэ ў 1494 годзе ў яго бібліятэцы захоўвалася 45 рукапісных кніг. Працавала і школа перапісчыкаў, якая была заснавана пасля пераезду ў горад Алелькавічаў.

У Слуцку развіваліся розныя рамёствы, пашыраўся гандаль з іншымі гарадамі. Шмат удзяляла Настасся Іванаўна ўвагі выхаванню сына, клапоцячыся, каб Юрый рос вартым памяці бацькі і добрых спраў слуцакоў.

Юрыю Сямёнавічу, калі падрос, таксама давялося шмат займацца баявымі справамі. Сапраўднае баявое хрышчэнне ён атрымаў у 1511 годзе, разграміўшы татар пад Кіевам. Праз гады прыняў удзел у Аршанскай бітве. На гэты час ён стаў ужо адным з самых багатых магнатаў ВКЛ — з сабой прывёў 433 коннікаў.

Баявыя поспехі сына і радавалі княгіню, напаўнялі сэрца гонарам, але часам прыносілі і нядобрыя думкі. Няўжо і яму давядзецца ўсё жыццё толькі тое і рабіць, што трымаць у руках зброю? Хіба нельга жыць на сваёй зямлі мірна, спакойна, у шчасці і згодзе? Хай у яе быў такі лёс, а навошта ўсё паўтараць дзецям? Ці толькі для вайны створаны чалавек?

Усё часцей прагнула хатняй утульнасці, цеплыні. Далейшае сваё шчасце звязвала з дзецьмі. І як быццам дамаглася, каб яны сталі шчаслівымі. Юрый узяў сабе ў жонкі князёўну Алену Радзівіл. Дачка Аляксандра выйшла замуж за гетмана Канстанціна Астрожскага.

А сама ці была шчаслівай? Пэўнага адказу так і не магла знасці. Але калі ў 1521 годзе Юрый здолеў адбіць чарговы напад татар, ужо не сумнявалася — шчаслівая яна. Няхай і не жаночая гэта справа — ваяваць, умацоўваць горад, але яна справілася з ёй. І дамаглася, што любы сэрцу Слуцак стаў непрыступным.

З гэтай думкай Настасся Іванаўна і памерла праз чатыры гады, пражыўшы крыху больш за 50. А пасля смерці ўжо яе імя, амазонкі з гнязда Алелькавічаў, стала легендай.

Настасся Слуцкая... Настасся Алелькавіч... Магчыма, яна і праваобраз Настассі Мікулічнай — гераіні былiннай.

Быліны ж, як вядома, не самі па сабе з'яўляюцца. Іх "падказвае" жыццё...

Дарэчы, у 1517 годзе ў Слуцку з'явіўся так званы "Слуцкі памяннік", у які запісвалі прозвішчы памерлых слуцкіх і іншых князёў, духавенства, гараджан. Гэты памінальнік, які вялі да XVIII стагоддзя, быў ілюстраваны малюнкамі. На сённяшні дзень захавалася ўсяго некалькі экземпляраў яго. Тым самы можна сцвердзіць, што Настасся Іванаўна мае пэўнае дачыненне і да захавання нацыянальнай гістарычнай памяці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Віктар ЖАК



26 сакавіка 1999 года пасля цяжкай працяглай хваробы памёр былы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, кандыдат педагагічных навук Віктар Жак.

Віктар Герасімавіч Жак нарадзіўся 1 студзеня 1935 года ў вёсцы Моўчадзь Гарадзішчанскага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага. У 1957 годзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт Жытомірскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам матэматыкі і фізікі на Брэстчыне. Служыў у Савецкай Арміі. Некалькі гадоў працаваў інспектарам Гарадзішчанскага раённага аддзела народнай адукацыі. Пасля вучобы ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага (1960—1963 гг.) працяглы час працаваў у Мінскім політэхнічным інстытуце — выкладчыкам, старшым выкладчыкам, а таксама дэканам факультэта павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў і дэканам інжынерна-педагагічнага факультэта, быў дацэнтам кафедры педагагічных дысцыплін інстытута, а з 1987 па чэрвень 1998 г. з'яўляўся загадчыкам кафедры пeддысцыплін БДПА.

Віктар Жак выступаў у друку з навуковымі публікацыямі па праблемах агульнай і прафесійнай педагогікі, быў актыўным прапагандыстам нацыянальнай літаратуры.

Светлы вобраз Віктара Жака назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, працаваў з ім.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

## Дзякуй за дружбу тваю...

Любы, неабачлівы, бескарыслівы, родны, з душой, чыстай, як свіцязянская вада, Віктар, дзякуй табе, што ты жыў сярод нас, свяціўся, азараў нас. Дзякуй, што падараваў мне Беларусь. Усе мае вершы, напісаныя там, пісаліся, каб найперш прачытаць табе. Дзякуй за твой унікальны дар адчуваць паэзію, быць паэтам у жыцці, падзвіжнікам сярод нашага меркантыльнага свету. Дзякуй за дружбу тваю. Я яшчэ напішу пра цябе. Але гэта не заменіць твайго позірку.

Любы Віця, даруй мне.

Тужлівыя вітанні святой Валі, Марыне і Марацiку, тваім сябрам Барысу Луцэнку, Валодзю Някляеву і святланоснай Свіцязі, якая заўсёды застанецца з намі.

***Безрассудный среди рассудочных,***
***Самый самоубийственный друг...***

***Отражаясь, сгибалась удочка,***
***Как нацеленный в сердце лук.***

***И за то, что ты искупался***
***В святозарной страшной воде,***
***Грех живыми не искупался...***
***Ты — везде. Мы не знаем, где.***

**Твой Андрэй ВАЗНЯСЕНСКІ**

*27 сакавіка 1999 года*

## Любіце слова!

Як цяжка вымавіць гэта: "Памёр Віктар Жак..." Усе словы развітання — пустыя ці малазначныя. Ужо таму, што педагог, страсны кніжнік і чытач Віктар Герасімавіч Жак меў са светам літаратуры, слова дачыненні зусім асаблівыя. Ён — з тых чытачоў і вогнепаклоннікаў літаратуры, дзякуючы якім слова, аднойчы прыйшоўшы ў свет, застаецца катэгорыяй духоўна дзейснай.

Відаць, як тысячы, мільёны іншых, ён, Віктар Жак, мог бы сваю незвычайную грамадскую актыўнасць, выключную энергію скіраваць на развіццё ўласнай кар'еры, на занятак бізнесам. Здаецца, для яго ж ніколі не было перашкод у арганізацыі самых, здавалася б, неверагодных сустрэч. У Мінску маглі не прыняць Ахмадуліну ці Вазнясенскага — і Жак адразу знаходзіў аўдыторыю ў правінцыі. Прыкладам, у Бядулі, у Камянецкім раёне. Гэта дзякуючы Віктару Герасімавічу ў політэхнічным інстытуце адкрылі, разгледзелі, адчулі шмат каго з мастакоў слова, з рускіх і беларускіх паэтаў, пісьменнікаў.

Усё гэта ён рабіў дзеля нас, дзеля людзей, якія знаходзіліся побач. І нават пры ўмове, што далёка не ўсе былі яго аднадумцамі. Ён лічыў важным іншае — культура, літаратура, слова якраз і існуюць дзеля таго, каб паяднаць нас, розных, праз прыгажосць, праз захапленне прыгожым.

Сіла любові В. Жака да слова, да паэзіі — вялікі прыклад. Прыклад шчырасці, высокай захопленасці, абагаўлення мастацкай творчасці. Прыклад бескарыслівага служэння высакародным ідэалам дабра, справядлівасці, святла.

Пазбавіцца традыцыйнага (ці не самая жорсткая з нацыянальных рыс!) занядбання-забыцця свайго, роднага мы здолеем толькі праз любоў да матчынага слова. Асветнік, кніжнік і чытач Віктар Жак якраз і запавядаў нам: "Любіце слова!"

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ПАМЯЦЬ

## Яленская-Дмахоўская з Камаровіч

135-годдзе з дня нараджэння вядомай беларускай фальклярысткі, асветніцы Эмы Яленскай-Дмахоўскай прайшло незаўважана. Можа, і таму нават, што з'явілася яна на свет у высакосны год, а сёлета 29 лютага ў календары не было... А Э. Яленская-Дмахоўская вартая таго, каб пра яе памятаць. Да 1890 года жыла з маці ў сваёй роднай вёсцы Камаровічы, цяпер Петрыкаўскі раён. Дарэчы, пазней з-пад яе пяра з'явіўся нарыс "Вёска Камаровічы".

Не парывала сувязі з роднымі мясцінамі і пасля пераезду ў Вільню. Захапіўшыся духоўнай культурай беларускага народа, запісвала нацыянальны фальклор, у тым ліку і на радзіме. Усяго занатавала 11 сшыткаў народных песень, падрыхтавала два рукапісныя зборнікі казак. Неўзабаве яны пабачылі свет пад назвай "Беларускі казачны эпас". І ўсё ж асноўнай працай даследчыцы лічыцца ўжо згаданы нарыс "Вёска Камаровічы", які па сённяшні дзень мае вялікае пазнавальнае і навуковае значэнне, бо ў ім шмат карысных звестак аб матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускіх палешукоў.

Вядомая Э. Яленская-Дмахоўская і як польскамоўная пісьменніца. Прытым у гэтай галіне творчай дзейнасці яна дасягнула значных поспехаў. Прынамсі, у 1897 гозе на конкурсе імя Баляслава Пруса яе аповесць "Паненка" атрымала першую прэмію. Не прайшла не заўважанай і драма "Сын" — была адзначана на конкурсе драматургіі імя Генрыка Сянкевіча, атрымала сцэнічнае жыццё. На творчым рахунку Э. Яленскай-Дмахоўскай і п'есы "Хваля", "Крыўда", зборнік навел "Бацяны", кнігі "Матка" і "Двор у Галінішках".

Асветніцкая ж дзейнасць Э. Яленскай-Дмахоўскай выявілася ў тым, што арганізоўвала народныя школкі, знаходзіла настаўнікаў, падтрымлівала іх не толькі маральна, а і матэрыяльна, сама працавала выкладчыцай. Стварала і перасоўныя бібліятэкі. А ў выніку часта ўступала ў канфлікт з уладамі. За выданне часопіса, які ім не спадабаўся, два месяцы правяла ў турме.

Не стала Э. Яленскай-Дмахоўскай 24 кастрычніка 1919 года.

## Беларуская літаратура — гэта ўжо наш лёс...

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

дэманструюць у нас рускі фільм, залы запоўнены. Канешне, літаратурныя сувязі залежаць ад асобных людзей. Таму што міжчалавечыя сувязі больш моцныя, чым, скажам, калі афіцыйная дэлегацыя Саюза пісьменнікаў едзе да афіцыйнага Саюза пісьменнікаў, каб падпісаць афіцыйную ж дамову. Дамова між душамі — больш моцная дамова. Выпадак, канешне, адыгрывае сваю ролю, але спрацоўвае і такое паняцце, як лёс. А для мяне беларуская літаратура — гэта ўжо лёс... Як, дарэчы, і для майго калегі Стэфана Паптонева.

**— Запаветная мара многіх маладых беларускіх пісьменнікаў — заваяваць еўрапейскі кніжны рынак. На жаль, гэтая мара дасюль застаецца марай. Нават для самых вядомых у свеце нашых літаратараў мяжа папулярнасці не дасягае сапраўды культавай, сусветнай. Дзіўна, але такая, мусіць, наша пісьменніцкая псіхалогія: быць папулярным для тысячы пісьменнікаў мала, і для дзесяці тысяч — мала, урэшце, як высвятляецца, і для мільённага насельніцтва сваёй краіны — недастаткова. А ці імкнуцца балгарскія літаратары заваяваць Еўропу, і якімі сродкамі яны гэтага дасягаюць?**

— Імкненне быць папулярным для пісьменніка — цалкам зразумелае... Раней дзяржава сама спрабавала папулярызаваць у свеце асобныя "афіцыёзныя" творы, якія адлюстроўвалі яе ідэалогію. Цяпер "афіцыёз" у свеце не цэніцца. Але я ведаю некалькіх нашых літаратараў, якія паспелі "прабіцца" ў Еўропе. Што да маладых, то ў іх у гэтым сэнсе іншыя магчымасці. Яны актыўна карыстаюцца электроннай поштай, Інтэрнетам. Мы з маладымі калегамі з універсітэта жартуем, што, можа быць, яны пачнуць пісаць і творы гэтай смешнай мовай электроннай пошты. Можа быць, літаратура і траціць нешта пры такіх "сучасных тэхналогіях", але затое набывае вядомасць. Мне здаецца, нашы маладыя пісьменнікі не адчуваюць сябе адарванымі ад свету. У іх ужо ёсць усведамленне, што яны еўрапейскія людзі. Канешне, у нас таксама адчуваецца мяжа, што аддзяляе нас ад заходняй культуры, адчуваюцца палітычныя наступствы мінулага і сучасных падзей. Нядаўна было сказана, што ў свеце на нас глядзяць праз агонь Косава. І калі нешта прасвечваецца, то вельмі мала.

**— У творчасці маладых літаратараў Балгарыі распаўсюджаны фармальныя пошукі, ці яны больш падтрымліваюць традыцыю?**

— Я трохі маю ўяўленне пра тое, што робіцца сёння ў маладой беларускай літаратуры, і магу сказаць, што ў нас праз гэта ўжо прайшлі. А фармальныя пошукі, канешне, існуюць. Але ў параўнанні з сапраўдным постмадэрнізмам, як я яго разумею, які быў у Еўропе ў 70-я гады, наш постмадэрнізм не ў чыстым выглядзе. Але ёсць свежыя галасы. І я вельмі люблю чытаць маладую паэзію. Таму што, мне здаецца, яна ўлоўлівае інтанацыю часу.

**— Самае галоўнае, у вас няма такой моўнай праблемы, як у нас, з якой сутыкаюцца як сталыя пісьменнікі, так і кожны пачатковец.**

— Так, так... Але мушу адзначыць, што ў параўнанні з 70-мі гадамі ў вас назіраецца моцны зрух да лепшага, беларускую мову можна пачуць у сталіцы куды часцей.

**— Будзем спадзявацца, што гэтая тэндэнцыя працягнецца. А таксама, што сувязь між нашымі народамі і нашымі літаратурамі і працягнецца, і ўзмоцніцца.**

ПАРОДЫІ

Георгі ЮРЧАНКА

# Вяселле ў лазні

*Анатоль КАЗЛОЎ*

Запрашэнне з'явілася на маім стале неяк нечакана і паведамляла, што вяселле пачнецца а 24-й гадзіне ў Мальдасовай лазні.

Туюю лазню я ведаў. Яна тулілася зводдаль ад вёскі паміж елак. Хадзілі почуткі, што ў ёй не раз парыліся нячысцікі.

Вечар пераходзіў у ноч, чорную, зусімака, як небыццё, калі я хоцькі-няхоцькі прамком пакіраваў у бок лазні. Шчыкатлівая цікаўнасць раздзірала мяне. Але па дарозе мне думалася пра еднасць цела і духу, пра значэнне і мэту жыцця дзеля іншых, пра здзяйсненне подзвігаў у імя каханых.

Неўзабаве сполахі маланкі пачалі жагнаць неба.

Лазня стаяла закінутая, ссунутая часам, з'едзеная чарвямі. Ля ўвахода ляжала гнёткая трухлявая калода. Сумотна, з надрывам шумелі дрэвы. Спрабавалі капаць скупаватыя кроплі дажджу.

Раптам будыніна нібы ўспыхнула свечкай. Знізу вырваўся слуп чырвеннага агню. Ноч ажыла, загаласіла. Узвыў вецер, застагнала зямля, і пад'ехала брычка, запрэжаная казлом. Маланка раз'юшана паласнула неба, раскаціста ўдарыў пярун. З-пад колаў кінулася ў ноч чорная кошка. З брычкі сышоў шкілет у мужчынскім касцюме, а за ўлюбёнцам пасляшала такая ж нявеста ў святочным вэлюме. Высушаныя і выбеленыя часам косці былі як рафінаваны цукар, аж звінелі. Чарапы ў абодвух выглядалі як футбольныя мячыкі.

Праз гнілы парожак з касцяністымі грыбамі-мумкамі абодва пакіравалі ў лазню. Я ўвайшоў следам. Шкілеты прайшлі ў глыб і селі за стол.

Дзіўнае святло лілося са столі. На сценах барадамі слаўся пыл, кросны павукоў, віселі плакаты з незнаёмымі пісьмёнамі Смярдзюча здушальны пах серы гойдаўся ў паветры, нібы чапляўся за шастак, кандэнсаваўся над маладымі.

За адзін мірг вока на стале з'явіліся місы, вёдры, глечыкі, тазы. У іх сядзелі жабы, пацукі, павукі. У рэшаце круціліся гадзюкі. Са столі, як пераспелыя грушы-гнілушкі, пасыпаліся ашалелыя мышы. Яны мякка шлёпаліся аб стальніцу і вокамгненна знікалі.

З-пад стала лётка вылецелі тры вароны і ўчапіліся ў сцены. Сляд-ком за каліўкам часу з паўразбуранай печкі пачалі выскокваць утулмусяк агідныя істоты з дзікімі вачамі, свінымі пятачкамі, казлінымі капытамі і хвастамі, як у валоў. Выбеглі сабака на дзвюх лапах і баран з рагамі на спіне. Усе яны расселіся за сталамі моўчкі, як без'языкія, і пачалі смакавіта заглытваць змесціва посуду, гучна чвямкаючы. Я глядзеў пераадольваючы гідлівасць.

— Ім трэбака сытное ўстолле! — падумалася міжвольна.

Раптамака да стала кідуном кінуўся нехта малака падобны да чалавека. У яго твары было многака чагось зямліста-шэрага. Следам падышла схуднелая постаць жанчыны з праваленым ротам. Бельмы-глядзелкі часта міргалі. Услед паказаўся ўладар цемры. Ён зарагатаў, аж скалануўся шастак, пахіснуліся сцены, пахіліўся стол, павярнулася печка. Усе знерухомелі:

— Дрыттваю за нагу! — праскочыла думка. — Во ўліп! Нябачна і макаўя. Такога нясчуеш і нязбачыш.

Аслізлы чарвяк боязі ўладна заскроб пад лапаткай. Сэрца гоцкала так, што, здавалася, выскачыць праз вушы. Пачала біць дрыготка, затрэсліся рукі. Нібы хтосьці халоднымі пальцамі ўціснуў вочы, якія во-во выпрыгнуць праз патыліцу. Як я пакінуў вяселле, успомніць не магу.

Але я адчуў і зразумеў, што яно ўзбагаціла мяне духоўна, адкрыла шмат невядомага ў гісторыі, літаратуры, мове, мастацтве, фальклорна-міфалагічным уяўленні, у містыцы і тагасветнасці, а найбольш — у рэаліях сённяшняга стану рэчаў.

Анатоль ЗЭКАЎ

## Параўнанні

*Раскрыю яблыка сакрэт*
*У глыбіні сусвету:*
*Адзін маленечкі ранет —*
*Як цэлая планета.*

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

***З усіх паэтаў я — паэт,***
***Вядома ж, разумнейшы.***
***Раскрыўшы яблыка сакрэт,***
***Пішу пра тое вершы.***
***Узяць ранет. Сярод галля***
***Глядзіцца яблык гожа.***
***А што ён круглы, як зямля,***
***Дадумаўся не кожны.***
***А я дадумаўся. Адзін***
***З усіх — каго ні згадвай.***
***То ж недарэмна***
***ў сад хадзіў***
***І той ранет выглядваў.***
***У агарод скірую зрок:***
***А мо і там што ўбачу?***
***Я б апісаў і агурок,***
***Ды параўнаць няма з чым.***

## Жаданні-здані

*Як прывіды,*
*як сны пра сны,*
*як здані*
*Душу маю*
*пакінулі жаданні.*

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

***Душу пакінулі жаданні,***
***Якімі колісь толькі й жыў,***
***І ўжо цяпер не да кахання —***
***Я й без таго шмат награшыў.***
***Ах, каб усё ды знала жонка —***
***Сямейны б лад пайшоў на злом.***
***Сядзела б лаянка ў пячонках,***
***І ў галаве штодня гуло б.***
***Ды што вяртацца да былога!***
***Усё сплыло — нібы вада.***
***Мне не жадаецца нічога,***
***Чаго калісьці я жадаў.***
***Падчас, бывае, зафліртую,***
***А большых і не стаўлю мэт.***
***Паставіць мэту мо й змагу я,***
***Аднак ужо не той імпэт.***

Павел САКОВІЧ

## Па Эдэме ў камбінэ

*З травы падміргваюць анюткі,*
*Штосьць блытана даводзіш мне.*
*Ах, Божа мой, лісток танюткі,*
*Бы шлеечка ад камбінэ.*
*Так, засяроджвацца не варта,*
*Ці ж мала для размовы тэм,*
*А шлеечка — лісток упарта*
*Заве ў анюткавы эдэм.*

Раіса БАРАВІКОВА

***Я пазрывала ўсе рамонкі:***
***Кахае любы мой, ці не?***
***Ліст бадзяку мясісты, колкі***
***Яго шчаку напомніў мне.***

***На што я позірк свой ні кіну,***
***Усё нагадвае аб ім:***
***Віецца рэменем травіна,***
***Туман — як цыгарэтны дым.***

***Я верш пішу на гэту тэму,***
***Радкі даюцца лёгка мне,***
***І мроіцца, што мы ў эдэме:***
***Мой любы й я у камбінэ.***

## Што ні крок, то верш...

*Вось ты па Свідоўцы*
*цяністай ідзеш,*
*Ля Прыпяці след пакідаеш,*
*І кожны твой рух —*
*для мяне новы верш.*
*Ты ж крочыш,*
*нічога не знаеш.*

Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК

***Ты крочыш па горадзе***
***шпаркай хадой:***
***З работы дамоў, раніцой —***
***на работу.***
***Хоць цяжка бывае паспець***
***за табой,***
***Ды ножкі твае мне***
***пабачыць ахвота.***

***Мяне кожны крок***
***твой натхняе на верш,***
***Хоць, можа, пра гэта зусім***
***ты не знаеш...***
***Хадзі болей пешшу, і хутка, павер,***
***З аўтографам кніжку***
***маю атрымаеш!***

ЭПІГРАМЫ

Уладзімір ПРАВАСУД

# Пенсіяната

*Імкліва мчыць наперад час.*
*Яго не заўважаем.*
*Да пенсіі так кожны з нас,*
*Нарэшце, дажывае.*
*Аб тым гаворку павядзем*
*(Яна нам не пашкодзіць),*
*Хто як на пенсію ідзе*
*І як сябе паводзіць.*

**Аўтар**

### РАМАНІСТ

***Рубеж адолены,***
***Той міг***
***Яго не азадачыў:***
***Нібы з цаглін, з таўшчэзных кніг***
***Сабе склаў домік-дачу.***
***І гэты церам-церамок***
***Цяплом і ласкай дыша.***
***Больш не пісаць! — даваў зарок,***
***Ды па прывычцы — піша...***

### ЛІРЫК

***Сабе не назапасіў славы ён,***
***Аб гэтым іншы раз і засмуткуе.***
***Спяваў у маладосці салаўём,***
***Цяпер, на пенсіі — кукуе.***

### ДРАМАТУРГ

***Запал яго і сёння не пагас,***
***Хоць, праўда,***
***і істотныя ёсць змены:***
***Яго на сцэне ставілі не раз,***
***Цяпер ён дома учыняе сцэны.***

### МЕМУАРЫСТ

***Усе падзеі, факты, мары***
***Загнаў даўно у мемуары,***
***Але без справы і цяпер***
***Не можа ўседзець —***
***Ён піша мемуары пра... суседзяў.***

### БАЙКАПІСЕЦ

***Ён і цяпер не ў засмучэнні,***
***Сваіх ён звычак не парушыў:***
***Жыве байкар у акружэнні***
***Звяроў і птушак.***

### КРЫТЫК

***Як быццам аб дабры ўсё дбаў,***
***Пяро трымаў ён***
***на крытычнай ноце.***
***Сяброў, што і былі, паразгубляў,***
***Цяпер сядзіць, нябога, у адзіноце.***

### СЦЭНАРЫСТ

***Тварыў, як мог, і быў заўжды***
***ў гуморы:***
***Ў сааўтарах хадзілі рэжысёры.***
***Цяпер, калі жыццё***
***ўжо за экватарам,***
***З іх ні адзін не ўзяў яго сааўтарам.***

### ПЛАГІЯТАР

***І не тварэц, і не пісец,***
***а — перапісчык.***
***Так і сядзіць на ніве творчай***
***гэты прышчык.***




*Мал. М. Гарэлавай*

Мілаван ВІТЭЗАВІЧ

# Афарызмы

Прэса — тыгр папяровы. Але і джунглі ў яго папяровыя.

Толькі з добра інфармаваных колаў магла сыходзіць такая дэзінфармацыя.

На прыёме, які ладзіў міністр інфармацыі, былі пададзены і газетныя "вуткі".

У газетах вы знойдзеце ўсё, што ад вас чакаюць!

Мараль падае... На старонкі прэсы.

Журналісты на большае здольныя, але ім гэта не дазволена.

Газетная качка ловіць свайго лаўца.

Заўважаецца ўзрастанне смяротнасці сярод журналістаў: сваё жыццё ператвараюць у навіны.

Журналісты ўсё часцей аддаюць жыццё дзеля інфармацыі, а ўсё радзей інфармацыю дзеля жыцця.

Журналісты свабодныя, толькі інфармацыя пад замкамі.

Чытаючы газеты, мы вычыталі і свае заднія думкі.

Я б стаў зоркаю, каб не ведаў, што такое знічка.

**Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3795.
Нумар падпісаны ў друк 1.4.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1520/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12